# ЗЬМЕСТ.



---

1-я Дзярж. друкарня Заказ. № 1235—6.000 экз. Галоўлітбел № 14.720.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-папулярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня | Студзень 1926 г. | № 1



## Нашы задачы і шляхі.

I.

Часопісь „Плуг“ распачынае другі год сваёй працы. У першы год, пакуль часопісь вывучала і вышуквала яшчэ мэтоды працы, справа была горш. Патрэбна было вельмі асьцярожна і ўмела ставіць тэмы, іх афармляць і выкладаць. Таксама часопісі невядома была патрэба чытача, бо сельска-гаспадарчая кніга, як форма агропрапаганды, ня мела яшчэ часам грунту сярод сялянства.

Усё гэта прымушала часопісь „Плуг“ вельмі чула прыслухоўвацца да думкі мясцовых агрономаў, настаўнікаў, нізавых працаўнікоў; супрацоўнікам рэдакцыі, часта гутарыць непасрэдна з сялянамі-гаспадарамі і г. д.[1]). Не абмінула часопісі „Плуг“ сваёй крытыкай і наша прэса (асабліва газ. „Савецкая Беларусь“ і „Бел. Вёска“[2]).

Але разам з гэтай працай па афармленьню сябе, як сялянскай кнігі, часопісь імкнулася адказваць і на цэлы шэраг пытаньняў бягучага с.-г. жыцьця ў дзяржаўным і соцыялістычным будаўніцтве Савецкай улады.

Высьвятляючы прыёмы с.-г. тэхнікі, якія могуць мець уплыў на ўраджай сялянскай гаспадаркі, час. „Плуг“ на працягу году разгортвала і цэлы шэраг пытаньняў па організацыі гаспадаркі, пытаньняў бягучых, сэзонных. Такім чынам, наколькі дазваляў аб‘ём часопісі, праводзіліся розныя с.-г. компаніі (працы вясною, летам, „Дзень Лесу“, „Сьвята Ураджаю“, с.-г. выстаўкі і г. д.). Разам з гэтым знаёмілася сялянства з усімі с.-г. мерапрыемствамі Савецкай улады і галоўнымі пытаньнямі зямельнай політыкі.

Акром таго, часопісь „Плуг“ увесь час асаблівую ўвагу зьвяртала на выяўленьне сялянскай с.-г. творчасьці, працы зямельных мясцовых працаўнікоў і агрономаў. Была апісана праца шмат якіх сялян-культурнікаў. Але пытаньне аб сялянах-культурніках часопісь першая разгарнула яшчэ шырэй, узьняўшы думку аб стварэньні *Інстытуту сялян-дасьледчыкаў*[3]). Гэта думка будзе напэўна расьці, бо яна мае пад сабою сталы і пэўны грунт. Мы бачым, напрыклад, па Менскай акрузе, што агрономы ў гэтым годзе ня мелі мажлівасьці зрабіць вучот сваіх дэмонстрацыйных вопытаў. (Прыблізна з 100 вопытаў вучот быў зроб-

---

[1]) Для больш поўнага і сталага вывучэньня сялянскай аўдыторыі і характару патрэбнай сялянству с.-г. кнігі, рэдакцыяй быў камандыраваны ў Калінінщчыну і Аршаншчыну агрон. Тупяневіч.

[2]) „Сав. Беларусь“ 25/III, 12/IV, 22/IV за 25 г. „Бел. Вёска“ №№ 262 і 270. „Звезда“ № 73. „Млот“ № 55. Час. „Полымя“ № 2. У Рызе газ. „Голас Беларуса“ ад 10 лістапада 25 г. № 17.

[3]) Гэтай справай цяпер цікавіцца НКЗ Беларусі і Беларуская агрономічная дасьледчая станцыя.

лены ў двух-трох агрономаў). Знача, сродкі на ўгнаеньне і праца агронома не далі яснага „паказу“, апрача прамой карысьці таму гаспадару, які пасеяў сабе бяз кошту парашкі і г. д. Калі-б існаваў *Інстытут сялян-дасьледчыкаў*, то ўсе такія вопыты маглі-б ставіць і праводзіць вучот самі сяляне-дасьледчыкі. Агроном-жа ўсім вынікам даваў бы толькі літаратурную форму.

Таксама цэлы шэраг іншых жыцьцёвых пытаньняў знаходзіў сабе адказы на старонках „Плуга“. К канцу году, ня гледзячы на шмат якія свае недахопы, часопісь ужо мае выразнае кола чытачоў (хатычытальні, с.-г. гурткі, паасобныя сяляне і г. д.). На цэлым шэрагу агранамічных нарад часопісь прызнана неабходнай у працы агронома і лічыцца, як адна з галоўных формаў агропрапаганды.

II.

У другі год працы часопісі „Плуг“ прыдзецца толькі паглыбіць свае ранейшыя мэты, скарыстоўваючы вопыт мінулага году.

Вядома, некаторыя пытаньні патрэбна будзе паставіць больш выразна і асабліва падкрэсьліць. Так, патрабуе значнага паглыбленьня і большага высьвятленьня *пытаньне па аб'яднаньню дробных сялянскіх гаспадарак* з мэтай лепшага скарыстаньня імі машын, угнаеньняў, крэдыту і наогул усяго, што можа мець коопэраваная гаспадарка.

*Пытаньні лепшай організацыі сялянскай гаспадаркі* пры ўлічваньні ўсіх мясцовых асаблівасьцяй (глебы, рынку, характару с.-г. вытворчасьці раёну, кармовых запасаў і г. д.), трэба таксама паставіць больш выразна. Значную ролю будзе адыгрываць і тут сялянскі вопыт, вопыт мясцовага агронома і праца дасьледчай станцыі.

*У організацыі гаспадаркі нам трэба ўжо клапаціцца ня толькі аб узьняцьці с.-г. продукцыі, але і аб палепшаньні гэтай продукцыі.* Даваенны ўзровень (яго прыблізна мы ўжо маем) ня можа стаяць для нас мэтай дасягненьня; наша сельская гаспадарка можа і будзе даваць больш. А большы яе прыбытак цесна зьвязаны з якасьцю продуктаў (якасьцю зярна, бульбы, валакна, воўны, яек і г. д.). Вось чаму цяпер агрономы так выразна ставяць пытаньні.—

1. *Сей толькі чыстым і палепшаным насеньнем;*

2. *Трымай і добра даглядай толькі палепшаную* (ці завадзкую) *сьвіньню, карову, авечку, курыцу* і г. д.

3. *Добра вырабляй і ўгнойвай поле ня толькі гноем, але пасевам лубіну і, дзе трэба, парашкамі.*

4. *Павялічвай запасы корму (палепшы сенажаць, сей кораняплоды, сэрадэлю, канюшыну).*

5. *Пераходзь на шматпольле.*

Паставім яшчэ некалькі задач; напрыклад, *спрыяць нарастаньню социялістычных элемэнтаў у вёсцы, дапамагаць організацыі бядняцкіх гаспадарак пры ўзмацненьні іх коопэрацыйнай сувязі ў вытворчых процэсах* (садовыя, гародныя, малочныя, насенныя формы і г. д.).

*Якімі-ж сродкамі ў далейшай сваёй працы прыдзецца карыстацца нашым агрономам, а таксама і часопісі „Плуг“?* Праца часопісі ў мінулым годзе, і практыка маладой Савецкай агрономіі сьведчыць, што магутнай падставай падняцыя гаспадаркі зьяўляецца агропрапаганда (у шырокім тлумачэньні гэтага слова).

Цяпер агрономы нашы лічаць, што і агропрапаганду трэба *рацыяналізаваць.* Гэта значыць, што ўсе парады сялянству павінны ўлічваць экономіку раёна (рынак), яго прыродныя асаблівасьці, напрамак тыповай гаспадаркі раёну і г. д. Напрыклад, калі ў раёне ёсьць крухмальні або пашырана сьвінагадоўля, то тыповая гаспадарка можа спэцыялізавацца на бульбе і г. д. *Агропрапаганду таксама трэба паглыбіць і зрабіць больш практычнай.* Гэта значыць, што не патрэбна гутарка нагул. Калі тлумачыцца карысьць мінэральнага ўгнаеньня, то трэба абавязкова дадаваць, якое і дзе ўгнаеньне прымяніць, дзе купіць і г. д. *А галоўнае, добра ведаць, што ў выніку парады прырост ураджаю ў селяніна будзе большы, чым усе страты* на „культуру“, на парашкі. Тое-ж можна сказаць і пра насеньне, больш цэнныя расьліны і г. д. Тут агроному папершае трэба ўжо ўсебакова ведаць свой раён, інакш яго праца будзе выпадковай.

Другое, часопісь „Плуг“ і надалей будзе зьвяртаць вялікую ўвагу на с.-г. гурткі, гэтыя крыніцы будучай с.-г. культуры.

Селянін-культурнік, селянін-дасьледчык праз часопісь будуць уцягнуты ў справу агропрапаганды. Іх праца, іх досьледы, як і культурная праца соцень і тысяч сялян, якія ўжо перабудавалі або перабудоўваюць свае гаспадаркі па новаму, будзе па мажлівасьці таксама скарыстана, як агульнае культурнае багацьце.

З поўнай сур'ёзнасьцю трэба сказаць, што і надалей часопісь „Плуг“ зможа выконваць свае мэты і ў поўнай меры быць карыснай толькі пры моральным і ідэёвым падтрыманьні яе з боку ўсіх нашых мясцовых працаўнікоў, агрономаў, перадавых сялян, настаўнікаў, вучняў, студэнтаў, як гэта было і ў першым годзе працы. Мы ў гэтым упэўнены, бо бачым, як павялічваецца і рознастаіцца лік чытачоў і супрацоўнікаў часопісі. С.-г. кніга, як газэта, становіцца ўжо патрэбнай нашай пасьлярэволюцыйнай вёсцы.[1])

---

[1]) Як аб гэтым сьведчаць водзывы сялян.

# Палявая гаспадарка

## Сельская гаспадарка Бабруйшчыны.

У Бабруйскай акрузе большую частку насельніцтва складаюць сяляне-земляробы. Але недастача зямлі і няўмелае яе скарыстаньне прывялі гаспадаркі да заняпаду.

Пасьля пашырэньня БССР, Земорганы пачалі праводзіць земляўпарадкаваньне. Разам з гэтым пачалася і агранамічная дапамога сялянству.

Хутка сялянства і само пачало выяўляць самадзейнасьць і шмат якія мерапрыёмствы праводзіць у жыцьцё. Дзякуючы гэтаму, сёлета ўжо ўсе агрономічныя мерапрыёмствы мелі вялікі посьпех.

У 1925 годзе продукцыйнасьць сельскай гаспадаркі была амаль такая, як і ў даваенны час. На колькі падняўся рост некаторых расьлін, можам бачыць з наступнай табліцы.

| ГАДЫ | Азімае жыта ў пудох | Авёс у пудох | Бульба ў пудох |
|---|---|---|---|
| 1905-13 . | 39,7 | 43,7 | 452,0 |
| 1924 . . | 30,0 | 28,0 | 500,0 |
| 1925 . . | 45,1 | 47,8 | 562,0 |

Пасяўная плошча мела 97 проц. ад плошчы 1916 г., а ў параўнаньні з 1924 г. яна павялічылася на 7,7 проц., або на 20273 дзес.

*Надзяленьне зямлёю і земляўпарадкаваньне.* Цяпер у Бабруйшчыне ёсьць 79.500 двароў, з якіх беззямельных і малазямельных (да 6 дзес.) 30.558 двароў. Для надзелу гэтых гаспадарак да патрэбнай нормы ($6\frac{1}{2}$ дзес.) патрэбна 86.497 дзес. зямлі. Зямельны-ж фонд налічвае толькі 84.703 дзес. У працягу гэтага году ўсяго раздана 12.380 дзес., на якіх організавана 60 пасёлкаў і данадзелена да найменшае нормы 2437 двароў.

Да гэтага часу прычынай застою па правядзеньню земляўпарадкаваньня зьяўлялася аплата працы па земляўпарадкаваньню, недахват крэдытаў і адсутнасьць спэцыялістых. Галоўнай формай земляўпарадкаваньня была організацыя пасёлкаў. Поўнае земляўпарадкаваньне наважана правесьці ў працягу бліжэйшых 10 год.

*Мэліорацыя.* Усёй няўдобіцы ў акрўзе налічваецца 202.096 дзес. У гэтым ліку балота 163.218 дзес., з якога 115.629 дзес. знаходзіцца ў карыстаньні сялян.

У першую чаргу праводзіцца асушка забалочанае зямлі, каб можна было хутчэй іх выкарыстаць, пад сенажаці ці выганы. Гэта мэліорацыйная праца пачалася яшчэ ў 1923 г., як дзяржаваю, так і таварыствамі. У 1925 годзе было організавана 14 мэліорацыйных таварыстваў з 1113 сябрамі, якія праводзяць працу на плошчы ў 3478 дзес. Агульная-ж плошча асушанае зямлі складае 4070 дзес.

*Жывёлагадоўля.* Жывёлагадоўля зьяўляецца асновай сялянскай гаспадаркі. Лік кароў гэтага году перавышае на 10,7 проц. мінулы год, але і гэтага яшчэ мала да нормы. Зусім ня маюць скаціны 1,4 проц. гаспадарак, бяз быдла 2,4 проц. і ня маюць рабачай скаціны 15,7 проц.

*Перасяленьне.* Для зьмяншэньня безпрацоўя на вёсцы вышукваюцца вольныя землі для надзелу беззямельнага насельніцтва, даецца дапамога на разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці, а таксама праводзіцца пляновае перасяленьне сялян на вольныя зямельныя фонды. Такое перасяленьне па заявах пачалося са студзеня месяца 1925 году. За ўвесь час атрыманы заявы ад 790 двароў (у Сібір 342, на Далёкі Ўсход 338, у Паволжа 107, у Карэльска-Мурманскую краіну 3 двары).

Усяго адпраўлена ў розныя месцы 45 сем'яў, у тым ліку адна рабочая дружына ў колькасьці 16 чалавек.

**М. Суравец.**

---

# Чатырохпалёвы севазварот.

Шмат усякіх севазваротаў уводзіцца цяпер у нас на Беларусі, шмат аб іх пішацца, але самы пашыраны, так званы пасёлкавы севазварот, застаецца забытым. Такім севазваротам зьяўляецца, чатырохпольле з васьмігадовым чаргаваньнем расьлін. Паказваю яго так:

| I-я зьмена | II-я зьмена | III-я зьмена | IV-я зьмена |
|---|---|---|---|
| Жыта+сэрадэля | Бульба | Ярына | Папар заняты і лубін |
| . . . . . . | . . . . . . | . . . . . . | . . . . . . |
| Жыта | Ярына+канюш. | Канюшына 1 г. | Канюшына II г. |

Гэты севазварот адзначаецца сваёю прастатою і не патрабуе драбленьня палёў, што надта важна пры сялянскім малазямельлі. Кожная зьмена тут дзеліцца прыблізна папалам і дзякуючы гэтаму, лёгка заўважыць, што ўвесь севазварот складаецца з двох частак і кожная з іх мае свой плодазьмен. Склаўшы абедзьве часткі плодазьмену, мы атрымаем васьміпалёвы севазварот з наступным чаргаваньнем расьлін: 1) *жыта,* 2) *бульба,* 3) *ярына,* 4) *папар заняты і лубін,* 5) *жыта,* 6) *ярына, канюшына,* 7) *канюшына 1,* і 8) *канюшына* II.

У гэтым севазвароце ўсе с.-г. расьліны, якія можна сеяць на супяскох і пяскох Беларусі, знаходзяць сабе найлепшае месца. Назіраньнямі ў Вузьдзенскім раёне адзначана, што падсеў сэрадэлі пад жыта

зьяўляецца досыць карысным прыёмам. Таксама спрабаваным і правераным прыёмам зьяўляецца культура падсеўнага і пажніўнага лубіну на зялёнае ўгнаеньне.

Такім чынам, пры дапамозе падсеву сэрадэлі і лубіну пад жыта, жытняя зьмена на наступны год пераходзіць пад засеў бульбы альбо ярыны напалову ўгноёнай, што зьяўляецца надзвычайна цэнным пры недахопу гною ў сялянскіх гаспадарках. Для атрыманьня хаця-бы сярэдняга ўраджаю бульбы ў гэтым полі патрабуецца толькі палова ўгнаеньня. Канюшына пры падсеве яе пад ярыну ідзе другім коранем пасьля ўгнаеньня і таксама знаходзіць сабе добра падрыхтаванае поле. Тут-жа разам з другой ярыной можна зьмясьціць і лён.

Трэцяя зьмена—ярына. Тут, пасьля бульбы, ячмень і пшаніца знаходзяць сваё самае лепшае месца. З падзякай тут будзе расьці і авёс. Тут-жа можна вызначыць невялікі кавалак поля і для чыстых пасеваў лубіну і сэрадэлі на насеньне. Калі-ж у гаспадарцы сэрадэля сеецца, як кармовая расьліна, на сена, то асобнага месца для насеннай сэрадэлі ня трэба. Пры кармовым яе скарыстаньні можна атрымаць даволі і насеньня. Канюшына першага году ў трэцяй зьмене зьяўляецца абавязковай культурай на сена.

Чацьвёртая зьмена зьяўляецца кармовым і ў той-жа час папарным палеткам. Лепшымі і карыснымі расьлінамі ў гэтай зьмене бязумоўна павінны зьявіцца выка, гарох і пялюшка, як у чыстым відзе, так і ў мешаніне з аўсом. Тут-жа можа быць і лубін на зялёнае ўгнаеньне. Пры адсутнасьці прыродных выпасаў канюшына другога году замяняе выпасы. Карыснасьць канюшыннай пашы даводзіць ня трэба—гэта зразумела.

Паказаны севазварот можа зьмяняцца ў тым выпадку, калі на зусім пескавой глебе ня будзе расьці канюшына. У такім разе яе прыходзіцца замяніць кармовымі расьлінамі—выкай, сэрадэляй і пялюшкай, а таксама лубінам насенным і на ўгнаеньне. Цяпер вядома, што насеньне лубіну мае рыначны збыт і лубін ва ўсякай гаспадарцы будзе карыснай расьлінай. Плодазьмен-жа ад гэтага не нарушыцца і севазварот застанецца правільным.

Гэты севазварот патрабуе нязначнай колькасьці гною. Недахват гною тут замяняецца падсеўнай і пажніўнай культурай лубіну і падсевам сэрадэлі. Скаціна пры гэтым севазвароце здаволена кармовымі расьлінамі, як у летні так і ў зімовы час. Апрача канюшынавай пашы ў папарным палетку ёсьць выкавая мешаніна, як добры сухі і зялёны корм.

У сучасны момант перабудовы сялянскіх гаспадарак у бок разьвіцьця жывёлагадоўлі, гэты севазварот на пескавых глебах павінен даць вялікую карысьць у справе разьвіцьця і ўмацаваньня вясковых гаспадарак.

Патрэбна яшчэ зазначыць, што гэты севазварот дазваляе павялічыць або зьменшыць плошчу адных расьлін за лік другіх. Напрыклад, калі блізка ёсьць бровар, дык бульба зьяўляецца самай цэннай культурай. Знача, маючы гэта на ўвазе, бульбай можна засяваць ня 3/4 дзес., а дзесяціну.

Якая-ж карысьць у канчатковым разрахунку ад чатырохпольля? Дзеля гэтага возьмем, напрыклад, гаспадарку з 6 дзес. пахаці і падлічым яе даход.

Пры трохпалёўцы маем:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1) 2 дзес. | жыта— | 90 пуд. | па 1 руб. | 20 кап. | 108 руб. |
| 2) 1/2 „ | бульбы— | 400 „ | „ — | 30 „ | 120 „ |
| 3) 2 „ | ярыны— | 80 „ | „ 1 „ | 20 „ | 96 „ |
| 4) 1 1/2 „ | папару | | — | — | — |
| | | | Усяго. | . . | 324 руб. |

Пры чатырохпалёўцы будзем мець:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1) 1 1/2 дзес. | жыта . | 82,5 пуд. | па 1 руб. | 20 кап. | 99 руб. |
| 2) 3/4 „ | бульбы | 750 „ | „ — „ | 30 „ | 225 „ |
| 3) 1 1/2 „ | ярыны | 75 „ | „ 1 „ | 20 „ | 90 „ |
| 4) 3/4 „ | канюш. сена | 120 „ | „ — „ | 50 „ | 60 „ |
| 5) 1/2 „ | выкав. сена | 70 „ | „ — „ | 40 „ | 28 „ |
| 6) 3/4 „ | канюш. пашы | | | | |
| 7) 1/4 „ | лубіну на зялёнае ўгнаеньне | | | | |
| | | | | Усяго. | . 502 руб. |

Прыбытак ад чатырохпалёўкі 178 руб.

Такім чынам, ня лічачы 3/4 дзес. канюшынавай пашы ў гаспадарцы пры 4-х польлі выходзіць на 178 руб. больш прыбытку ў параўнаньні з трохпольлем (ураджайнасьць збожжа павялічана толькі на 10 пуд. зярна з дзес.). Трэба мець на ўвазе, што пры гэтым севазвароце ўраджай усіх расьлін у далейшым часе паступова будзе падымацца На пасёлку Гушчына—(Узьдзен. р.) ураджаі ад гэтай чатырохпалёўкі такія, як і паказаныя далей.

| | Жыта | бульба | ярына |
|---|---|---|---|
| Х. Паўлоўшчына . . . . . . | 80 п. | 1000 п. | 70 п. |
| Пасёлак Ракітны Востраў (М. Дубовік) | 90 „ | 900 „ | 75 „ |

Вось тая чатырохпалёўка, таварышы сяляне, праз якую вам гаворащь *)

П. Ляневіч.

## Аб палепшаньні балот.

*(З працы Забалацкай балотна-дасьледчай гаспадаркі).*

У раёне балотнай гаспадаркі найбольш пашыраны нізавыя балоты, якія ў большасьці скарыстоўваюцца насельніцтвам пад выпас і рэдка застаўляюцца пад сенажаці.

Разчышчаныя ад зарасьнікаў (вярба, бяроза) з няроўнай паверхняй, гэтыя сенажаці характарны нізкім ураджаем і дрэнным сенам. Калі на такіх сенажацях пасецца скаціна доўгі час, то гэта яшчэ больш зьніжае ўраджай.

Прымяненьне на такіх балотных угодзьдзях грунтоўных палепшаньняў (з узорваньнем), вядома, адзін з лепшых спосабаў, але можна палепшыць іх і прасьцейшым спосабам—павярхоўным вырабам дзярніны.

Для высьвятленьня гэтага пытаньня быў узяты адзін з вопытных вучасткаў плошчаю ў 1 дзес.

*) У паказаным севазвароце няма належнага месца пад лён. Гэта расьліна добра расьце пасьля траў, а тут лён прапануецца сеяць у аржоньні. І другое, у Беларусі сяляне ня вельмі паважаюць трымаць два гады поле пад канюшынаю, асабліва маламоцнае сялянства. Такое канюшынішча дрэнна і вырабіць, і карысьці ад пашы менш, чым ад другой якой-небудзь расьліны. Аднак севазварот заслугоўвае вялікай увагі сяляніна, які пераходзіць да шматпольля.

(Рэд.)

Гэты вучастак падзялілі на 4 дзялянкі (па $^{1}|_{4}$ дзес. кожная).

1-я дзялянка *пабаранавана рана вясной* (13|IV) *у 2 сьляды* бараной Лаакэ.

2-я „ *пабаранавана ў той-жа час і ўгноена* (паложана 9 пуд. калійнае солі і 12 п. супэрфосфату).

3-я „ *пабаранавана ў 3 сьляды бараной Нанстo, угноена як і другая*, і 22|IV *засеяна насеньнем розных траў.*

4-я „ зусім не чапана.

К часу ўборкі 15|VII на чацьвертай дзялянцы была нявысокая і рэдкая трава, сярод якой пападаліся голыя месцы, мох. Адкрасаваўшыя мурожніца і мятліца былі пакрыты цьвітучым розным зельлем (шчаўе, дзярнавая і балотная незабудка, казялец, вогнікавы паўзучы і востры, званец, маруна балотная, вароніка і валяр'яна лекавая).

З нізавых траў, асака, папараць. Ураджай сырой масы 245 пуд. з дзес. і сухой (сена) 105 пуд. Атавы не касілі.

Пры баранаваньні такой сенажаці (1-я дзялянка) зьнішчаецца мох, але ў першы год палепшаньне мала прыметна. Выгляд сенажаці няроўны (голыя чорныя месцы садраных махавых купін), рост травы слабы; далей яна паляпшаецца і к уборцы цьвітуць казялец вогнікавы, незабудка балотная і дзярнавая, шмат адцьвіўшага шчаўя, маруны балотнай; рэдка прыметны званец, зоркаўка, скрыпень балотны.

Скошаная трава дае з дзес. сырой масы 430 пуд., а сухой (сена)—116 пуд. Другога ўкосу вучастак ня даў.

*Пасьля ўнясеньня на пабаранаваны вучастак калі-фосфатных угнаеньняў* (2-я дзял.) перш бывае зьмена колеру травы на больш цёмна-зялёны. Склад травастою раўнейшы: мурожніца і мятліца нормальна растуць, але і тут перавышае markdown розңае зельле, як кустоўнік балотны, незабудка балотная і дзярнавая, маруна балотная, радзей пападаюцца шчаўе, званец, зоркаўка і зусім рэдка вароніка і вятроўнік вязалісьцевы. Усе гэтыя травы к часу ўборкі адцьвітаюць, зьяўляюцца новыя дзікія травы—крапіва разнапнёвая і лебяда белая.

Зялёнай масы з дзес. набрана 680 пуд., а сухой (сена)—212 пуд.; 25/IX у другі ўкос 70 пуд.

*Падсеяныя травы на ўгноеным і добра прабаранаваным балоце* (3-я дзел.) перш слаба растуць і даюць рэдкія ўсходы. Але з часам трава пачынае лепш расьці і к часу ўборкі над паверхняю разрастаецца буйная featureнатраўная маса, сярод якой паасобныя кусты канюшыны і розных лепшых лугавых траў.

Галоўным чынам разрастаецца балотны кустоўнік і незабудка балотная і дзернавая. Даволі часта сустракаюцца вогнікавы, востры і паўзучы казялец, скрыпень балотны; таксама сустракаюцца вароніка, вятроўнік вязалісьцевы і крапіва разнапнёвая.

Ураджай сырой масы на дзес. *даходзіць да 1300 пуд.*, а сухой (сена)—215 пуд.

У другі ўкос (20|IX) ужо да 25 проц. было падсеяных траў чырвонай і швэцкай канюшыны, а таксама купкоўкі звычайнай і мурожніцы лугавой; галоўную-ж масу складаюць трыпутнік, мята аўстрыйская і маруна балотная; радзей сустракаюцца шчаўе, мурожніца чырвоная і казялец.

Сабраная маса дала з дзес. сырой масы 540 пуд., а сухой (сена)—120 пуд.

Вынікі досьледаў паказваю ў табліцы.

| Дзялянка ў досьледзе. | ХАРАКТАРЫСТЫКА ТРАВАСТОЮ. | Ураджай з дзес. з 2 ук. | | Расход на дзес. | | Чысты даход. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сыр. мас. | Сена | | | | |
| | | Пуды | | р. | к. | р. | к. |
| 1. Кантроль | Слаба парасьлі лугавыя травы; шмат дробнага зельля, мох . | 245 | 105 | — | — | 23 | — |
| 2. Баранаваньне | Значнае разьвіцьцё рознага зельля . . . . . . . | 420 | 115 | 11 | 50 | 23 | — |
| 3. Баранаваньне і ўгнаеньне | Памернае разьмеркаваньне лугавых траў, добры рост рознага зельля і дзікіх траў. . | 910 | 282 | 53 | 50 | 35 | — |
| 4. Баранаваньне з угнаеньнем і падсевам траў | Добрае разьвіцьцё розных траў і сарнякоў, месцамі пашырэньне пасеяных траў. . . | 1840 | 335 | 95 | — | 16 | — |

Як бачым з табліцы, з узростам ураджаю павышаюцца і выдаткі. Велічыню чыстага даходу вылічым, калі ацэнім пуд сена ў 30 кап. Параўнаўшы з гэтым ураджай у першы год культуры выка-аўсянай мешаніны ў 280 пуд. (пры цане 50 кап. за пуд) і чысты даход 40-50 р., мы можам на падставе досьледу зрабіць такія вынікі:

1. У першы год культуры прымяненьне на *балотных сенажацях з дрэнным травастоем адно баранаваньне не дае ніякага палепшаньня.*

2. У тых жа ўмовах *прыбаўка калі-фосфарных угнаеньняў уздымае ўраджайнасьць у 2-3 разы,* і хоць расходы значныя, але прыбаўка ўраджаю ў той-жа год аплачвае ўсе выдаткі і дае яшчэ чыстую карысьць.

3. *Пры адначасным падсеве траў з угнаеньнем павышаецца ўраджай у два ўкосы ў 3½-4 разы;* усе выдаткі аплачваюцца ў той-жа год і застаецца яшчэ невялікі даход.

4. *Павярхоўнае палепшаньне сенажаці* (з угнаеньнем і падсевам траў) *у параўнаньні з глыбокаю воркай цаліны* і далейшым засевам выка-аўсянай мешаніны *ў першы год пры аднолькавых затратах дае меншую карысьць.*

А. Шохар.

---

# Кароткі агляд сельскай гаспадаркі Беларусі за 1924—25 год.

Кожная гаспадарка пад уплывам экономічных, культурна-бытавых, прыродных і іншых умоў заўсёды зьмяняецца. З гэтых, часам вельмі малых, зьмен паасобных гаспадарак складаецца ва ўсёй сельскай гаспадарцы краіны больш-менш значныя зьмены, якія дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі абмяркоўваюцца і ацэньваюцца з боку вытворчасьці, на падставе гэтага яны будуюць сваю гаспадарчую політыку. Вынікаючыя зьмены, іх прычыны, напрамак і тэмп цікавы ня толькі для ўстаноў, маючых дачыненьне да сельскай гаспадаркі, але іх павін-

ны ведаць і зямельныя працаўнікі, каб лепш будаваць сваю працу па абслугоўваньню гаспадаркі.

Мы спынімся толькі на галоўных зьменах у дзьвёх галінах гаспадаркі (паляводзтва і жывёлагадоўлі), якія выніклі за апошні год у параўнаньні з мінулым 1924 г. і дарэволюцыйным 1916 г.

Галоўнымі рысамі паляводзтва будуць плошча пахаці, якая кожны год засяваецца, разьмеркаваньне пахаці пад паасобнымі расьлінамі і высата ўраджаю расьлін. Зьмены ў гэтых паасобных рысах і разгледзім па ўсёй Беларусі.

Было ўсёй пасеўнай плошчы ў Беларусі ў тыс. дзес.

| 1916 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| 2.211,5 | 2.287,3 | 2.429,2 |
| 100% | 103,4% | 112,4% |

Засеўная плошча павялічылася. Павялічэньне гэта было за кошт зьнішчэньня недасеваў у мінулыя гады, праз выраб аблог, пусташаў і г. д. Недасеянай пахаці, аблог, пусташаў у 1924 годзе было 252,6 тыс. дзес., а ў 1925 г. стала 194,1 тыс. дзес.—зьніжэньне сталася амаль што на чвэрць (23,2 проц.). Павялічэньне засеўнай плошчы таксама йшло за зьмяншэньне незанятага папару, якога ў 1924 г. было 764,9 тыс. дзес., а ў 1925—737,6 тыс. дзес. (зьніжэньне на 3,4 проц.).

Незаняты папар, аблогі, залежы і г. д. з пашырэньнем жывёлагадоўлі (павялічэньнем гною) будуць усё больш зьмяншацца, што будзе сьведчыць аб пашырэньні і разьвіцьці як паляводства, так і ўсёй гаспадаркі.

Цяпер паглядзім, як разьмяркоўваецца пахаць пад паасобнымі расьлінамі.

На Беларусі маецца шмат расьлін. Мы іх падзелім на групы: 1) зярновыя (сюды належаць жыта, пшаніца зімка і ярка, авёс, ячмень, грэчка, проса, гарох, боб і інш.), 2) *тэхнічныя* (лён і каноплі), 3) бульба і 4) *кармовыя травы* (выка, канюшына і цімафейка).

На 100 дзес. усёй засеўнай плошчы прыходзілася пад групамі расьлін.

| Група / Год | Зярновых | Тэхнічных | Бульбы | Кораньплодаў | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1916 г. | 82,1 | 4,2 | 8,7 | 5,0 | 100 |
| 1924 г. | 82,5 | 3,4 | 10,4 | 3,7 | 100 |
| 1925 г. | 79,7 | 4,7 | 11,4 | 4,4 | 100 |

Розныя расьліны маюць не аднолькавае значэньне дзеля гаспадаркі. Так, напрыклад, па досьледах НКЗ адна дзесяціна ў сярэднім на Беларусі давала ў 1923-1924 г. прыбытак з жытных адзінках:

Зімовага жыта . . . . . . . . 46,2
Аўса . . . . . . . . . . . . . 54,0
Лёну . . . . . . . . . . . . . 74,2
Бульбы . . . . . . . . . . . . 98,3

Такім чынам, павялічэньне плошчы пад тэхнічнымі, бульбай і зьніжэньне пад зярновымі сьведчыць аб павышэньні агульнага прыбытку ад паляводзтва. У 1923-24 г. паляводзтва па папярэдніх даных дало

агульнага прыбытку 153.548,60 тысяч даваенных рублёў, а ў 1924-25 г. мяркуецца прыбытак у 160.087,2 тыс. руб.—павялічэньне на 4,2 проц. Гэта павялічэньне агульнага прыбытку складаецца як ад пявялічэньня ўсёй засеўнай плошчы, так і ад пашырэньня тэхнічных расьлін і бульбы.

Кармовыя травы яшчэ не дасягнулі да разьмераў 1916 г. Але 1925 г. *) у параўнаньні з 1924 г. дае вельмі значнае павялічэньне (на 21,7 проц.), і трэба спадзявацца, што бліжэйшыя гады ў некалькі разоў перавысяць плошчу кармовых траў 1916 г.

Прыходзіцца яшчэ падкрэсьліць адну вельмі важную зьмену ў паляводзтве 1924-25 г. ў параўнаньні з мінулым годам: гэта павялічэньне засеву сэрадэлі, якой у 1924 г. было 3.231 дзес., а ў 1925—7.554 дз.; таксама павялічэньне лубіну з 30.385 дзес. у 1924 г. на 41.821 дзес. у 1925 годзе.

Цяпер спынімся на ўраджаях.

Вышыня ўраджаю залежыць ад прыродна-кліматычных і тэхнічных умоў. Кліматычныя ўмовы даволі зьменчывы з году ў год і загэтым дзеля вызначэньня ўраджаю трэба браць ураджай за некалькі год і выводзіць сярэдні.

Сярэдні ўраджай у Беларусі.

| | 1905-14 г. | 1923-24 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|
| Жыта | 42,8 | 42,8 | 50,4 |
| Авёс | 50,4 | 50,8 | 54,5 |
| Ячмень | 49,6 | 45,4 | 50,1 |
| Грэчка | 28,2 | 25,3 | 32,6 |
| Лён (семя) | 32,1 | 23,2 | — |
| Бульба | 435,3 | 503,5 | 555,1 |

Даныя аб ураджаі 1925 г. яшчэ толькі прыблізныя і выведзены па мэтоду лічбовай ацэнкі і магчыма крыху павялічаны.

Наогул, цяперашнія ўраджаі ў большасьці расьлін дасягнулі да даваеннага ўзроўня, а бульба нават перавысіла. Выключэньнем зьяўляецца ячмень, грэчка і лён. Трэба адзначыць, што вышыня ўраджаю хістаецца па акругах Беларусі: самыя нізкія ўраджаі ў Полаччыне і Віцебшчыне, самыя высокія ў Аршанскай, Слуцкай і Менскай акругах.

Такім чынам, наша паляводзтва ў некаторых выпадках дасягнула і перавысіла даваеннае становішча. Але трэба адзначыць, што якасьць продуктаў паляводзтва амаль што не палепшылася. Нашыя продукты і цяпер застаюцца нізкасортнымі, асабліва продукты лёну і бульбы.

Галоўнай мэтай цяпер зьяўляецца далейшы рост паляводзтва праз палепшаньне насеньня, лепшы выраб глебы і г. д.

*Жывёлагадоўля.* Сельская гаспадарка Беларусі па многіх прычынах (экономічных, прыродных і інш.) паступова прымае жывёлаводны ўхіл. Гэта галіна ва ўсёй гаспадарцы ўсё больш пачынае зьяўляцца галоўнай, ад якой і бывае больш прыбытку. Так, напрыклад, па досьледах НКЗ у 1923-24 г. сялянская гаспадарка ў сярэднім атрымоўвала агульнага прыбытку ад паляводзтва, лугаводзтва, садоўніцтва і гародніцтва *435,8 жытніх адзінак*, а ад жывёлагадоўлі *521,8 жытніх адзінак.*

*) Травы ў 1925 г. займалі 4.3%, у 1916 г.—4,6%.

Жывёлагадоўля складаецца з *конягадоўлі, буйнай рагатай жывёлы, сьвінагадоўлі* і г. д. Розныя віды жывёлы ў залежнасьці ад розных умоў разьвіцьця гаспадаркі маюць не аднолькавае значэньне. Гэта адбываецца ў тым, што ў агульным ліку жывёлы мае перавагу той ці іншы від жывёлы. Так, напрыклад, на 1000 галоў жывёлы прыпадала:

| | Коняй | Буйн. раг. жыв. | Сьвіней | Авечак | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1916 г. | 142 | 260 | 299 | 299 | 1000 |
| 1924 г. | 132 | 261 | 229 | 378 | 1000 |
| 1925 г. | 124 | 254 | 244 | 378 | 1000 |

У 1916 годзе па ліку на першым месцы стаялі свіньні і авечкі, на другім—буйчая рагатая жывёла і на апошнім—коні. У 1924 г. і 1925 г. на першае месца перашлі авечкі, на другое—буйная рагатая жывёла, а сьвіньні на трэцяе. Гэта сьведчыць аб павышэньні ролі авечак і памяншэньні ролі сьвіней. Коні ўвесь час застаюцца на апошнім месцы.

Спынімся на становішчы і зьменах аддзельных відаў жывёлы.

Было коняй у тысячах штук:

| 1916 г. | 1924 г. | 1925 т. |
|---|---|---|
| 756,3 | 788,0 | 890,8 |
| 100% | 104.2% | 117,0% |

Бачым даволі значны ўзрост. Па ліку коняй у 1925 г. значна больш, чым было ў 1916 г. Такім чынам, конягадоўля дашла да дарэволюцыйных разьмераў, але якасьць коняй застаецца, як і ў даваенныя гады, вельмі нізкай. Коні ў масе нізкарослыя і па росту разьмяркоўваюцца так: *ростам ніжэй* 1 *арш. 14. в.*—20,1%, *ростам да 2 арш.*—38,1% і *вышэй 2 арш, 41,8%*. Жывая вага каня ў масе не перавышае 20-25 пудоў. Галоўнай мэтай сялянства цяпер зьяўляецца павышэньне якасьці коняй праз палепшанае кармленьне, догляд, прыпусканьне завадзкіх жарабкоў і г. д.

Было буйнай рагатай жывёлы ў тысяч. штук.

| 1916 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| 1.392,3 | 1.550,6 | 1.837,8 |
| 100% | 111,4% | 132,0% |

Бачым большы ўзрост, чым коняй.

Буйная рагатая жывёла складаецца з валоў, быкоў, кароў і маладняка. Паглядзім, які процант займалі гэтыя аддзельныя віды ў агульным стадзе рагатай жывёлы раней і цяпер.

| | Валы | Быкі | Каровы | Маладняк | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1917 г. | 1,7 | 1,1 | 57,2 | 40,0 | 100 |
| 1925 г. | 4,0 | 1,2 | 58,7 | 36.1 | 100 |

Значнае павялічэньне валоў, якое амаль што цалком прыпадае на Мазырскую акругу. Павялічэньне кароў і зьніжэньне маладняка сьведчыць аб тым, што рагатая жывёла прымае малочны напрамак больш, чым мясны.

Такім чынам, буйная рагатая жывёла з боку колькасьці значна абагнала дарэволюцыйны стан. Цяцер застаецца павышаць якасьць рагатай жывёлы і ў першую чаргу малочнасьць кароў, якая ў сярэднім на Беларусі вызначаецца ў 60 вёд. у год (пры 7—8 месяцах даеньня), што вельмі нізка.

Колькасьць сьвіней у тысячах штук.

| 1916 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| 1.597,7 | 1.361,5 | 1.764,9 |
| 100% | 85,2% | 110,5% |

Сьвінагадоўля больш, чым другая галіна жывёлагадоўлі, зьніжалася ў ваенна-рэволюцыйныя гады. Але, як мы бачым, з боку колькасьці яна адноўлена.

Колькасьць авечак у тысячах штук.

| 1916 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| 1.595,2 | 2.248,8 | 2726,0 |
| 100% | 145,5% | 146,4% |

Авечкі вельмі значна ўзрасьлі, як ніякі від жывёлы.

Такім чынам, мы бачым, што галоўныя галіны сельскай гаспадаркі Беларусі, як паляводзтва, так і жывёлагадоўля, з боку колькасьці, значна перавышаюць дарэволюцыйны стан і цяпер галоўнай мэтай зьяўляецца разам з павялічэньнем колькасьці паляпшаць яе якасьць і тым самым уздымаць даходнасьць сельскай гаспадаркі. Але прыбытковасьць залежыць яшчэ ад рыначных умоў, ад суадносін цэн на сельска-гаспадарчыя і прамысловыя тавары і г. д.

Аб рынках, цэнах і аб тых зьменах, якія тут вынiклі ў 1925 годзе ў параўнаньні з мінулым 1924 г. і з даваенным часам, будзе гутарка далей.

**У. Шыцькоўскі.**

---

# Аб рахунковасьці ў сялянскай гаспадарцы*).

У № 12 „Плуга“ мы паказалі сшыткі, па якіх патрэбна весьці запісы, каб ацаніць прыбытковасьць паляводзтва. Гэта вылічэньне робіцца так: з першага сшытку падлічваем, якая плошча была засеяна кожнай расьлінай (жытам, аўсом, ячменем, бульбай і г. д.), колькі было вывезена гною і мінэральнага ўгнаеньня, колькі высеяна насеньня, патрачана дзён працы конскіх і людзкіх. Потым падлічваем, колькі атрымана продуктаў (збожжа, саломы і мякіны). Далей аценьваем усе атрыманыя продукты па сярэдніх цэнах бліжэйшага рынку. З агульнай сумы мы павінны адкінуць кошт насеньня, гною і мінэральнага ўгнаеньня, усе грашовыя расходы на рамонт прылад, плату наёмным рабочым і працу на коні. Яшчэ павінны былі-б скінуць кошт людзкой працы, але ацаніць яе нельга, бо большай часткай няма цэн на рабочыя рукі. Такім чынам, мы маем прыбытковасьць паляводзтва.

Акрамя гэтага, зрабіўшы такі рахунак, можна яшчэ вылічыць ураджай паасобных расьлін і аплату аднаго рабочага дню, як рознымі культурамі, так і ўсімі імі разам. Дзеля гэтага патрэбна суму прыбытку падзяліць на лік патрачаных дзён. Прычым ведаючы, што працоўны дзень мужчыны, жанчыны і дзяцей ня роўны, то можна прыняць, што 10 дзён працы мужчыны роўны 12 дням працы жанчыны або 20 дзіцячым дням (ад 12 да 16 гадоў).

Цяпер разгледзім запісы па галіне жывёлагадоўлі. Тут таксама патрэбна завесьці два сшыткі: адзін *дзеля запісу ўсіх выдаткаў па жывёлагадоўлі*, другі—*па прыбытку ад яе*. Можна-б было яшчэ завесьці сшытак і расходаў продуктаў ад жывёлагадоўлі, у які запісваць расход гэтых продуктаў: *колькі спажыта сям'ёй, колькі продана, калі і па*

*) Гл. „Плуг“ № 12. 1926 г.

*якой цане і г. д.* Прычым, гэты сшытак можна завесьці альбо на кожны від жывёлы (*коні, буйная рагатая скаціна, сьвіньні, авечкі, птушкі*), альбо адзін сшытак на ўсе віды жывёлы.

Мы дадзім прыкладныя схэмы сшыткаў дзеля запісу расходаў і прыбыткаў ад жывёлагадоўлі, лічачы, што трэці тып сшытку (расходаў продуктаў жывёлагадоўлі) просты і можа быць заведзены па жаданьню гаспадаром.

*Сшытак для запісу расходаў па жывёлагадоўлі.*

| Назва жывёлы. | Лік | Пэрыод утрыманьня. | | Назва і лік штодзеннай дачы кармоў | Усяго скормлена корму | Пашло на падсьціл | Іншыя выдаткі | Патрачана дзён на догляд. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Калі пачаўся і сконч. | Лік дзён | | | | | Мужч. | Жаноч. | Дзіц. |
| Каровы. | 2 | падкорм з 10/X да 5/XI | 25 | Сена 5 п. Саломы 10 п. | Сена Саломы | 30 п. | Злучка 1.50 к. | — | 5 | 7 |
| | | Стойлавы ў асеньні пэрыод з 5/XI да 20/IV | 166 | Сена 10 п. Саломы 15 п. | Сена Саломы | | Лячэньне 1 р. | 4 | 20 | 4 |

У гэтым сшытку вядзецца запіс і на іншыя віды жывёлы. У канцы году патрэбна падлічыць расход усіх кармоў на кожны від жывёлы, подсьцілу, грашовыя расходы і лік патрачаных дзён на догляд і кармленьне.

*Стытак прыбытку продуктаў жывёлагадоўлі.*

| Назва жывёлы | Лік | Дзён працы коні і валоў | | Артымана малака | | | Мяса. | Мяса сьвіньога. | Сала. | Шэрсьці. | Шчаціньня ад сьвіней, скуры і г. д. | Гною. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У сваёй гаспад. | Зароблена | Даілася кожная карова | Штодзен. ўдой | Усяго малака. | | | | | | |
| Каровы | 2 | — | — | Адна з 5/I па 10/VIII і другая з 15 II па 20\|IX. | 14 ф. | 72 ф. | Зарэзан бычок—2 пуды мяса. | — | — | — | Адна цялячая скура | Ад кароў за ўвесь год 700 пуд. |
| | | | | | 15 ф. | 81 ф. | | | | | | |
| | | | | | | 15 ф. | | | | | | |

У канцы году падлічваем усе атрыманыя продукты і ацэньваем іх па сярэдніх цэнах бліжэйшага рынку.

Такім чынам, з першага сшытку мы маем, колькі чаго страчана на ўтрыманьне жывёлы (корм, подсьціл, грашовыя выдаткі). Ацаніўшы ўвесь корм і подсьціл, і дабавіўшы сюды грашовыя выдаткі, мы будзем мець расходы на жывёлу, а з другога сшытку мы маем суму прыбытку ад жывёлы. Розьніца дасьць прыбытак ад жывёлы. Гэты прыбытак мы можам вылічыць як на кожны від жывёлы паасобку, так і разам на ўсю жывёлу. Таксама можам вылічыць аплату аднаго дня жывёлай, дзеля чаго патрэбна разьдзяліць прыбытак ад жывёлы на лік дзён, патрачаных на догляд за ёю.

Параўнаньне прыбытку ад паляводзтва і жывёлагадоўлі пакажа, якая галіна ва ўмовах гаспадаркі найбольш прыбыткова і якая галіна лепш аплачвае працу. Вядучы запісы па гэтых узорных сшытках, мы заўсёды можам вылічыць прыбытковасьць ня толькі цэлых галін, але і паасобных яе частак.

**Шыцькоўскі.**




# Садоўніцтва Беларусі ў канцы 1925 г.

Ніводная галіна нашай сельскай гаспадаркі так не пацярпела за час вайны і рэволюцыі, як садоўніцтва.

Пэўне яшчэ ўсе добра памятаюць, як сады нашы былі месцам стаянак ўцекачоў, папасу скаціны і г. д. Тут-жа вельмі часта стаялі абозы войска: плады з дрэў здымаліся ня інакш як з цэлымі галінамі.

Можна было думаць, што садоўніцтва ў дробных сялянскіх гаспадарках загіне. Аднак, ня гледзячы на такія адносіны да садоўніцтва, можна бачыць, што яно не загінула, пережыло „ліхія гадзіны“ і зараз шпарка аднаўляецца, абганяючы нават другія галіны сельскай гаспадаркі. Адначасова з гэтым сялянства мае вялікую цікавасьць да пасадкі новых садоў, аб чым сьведчыць значнае запатрабаваньне на пладовы пасадачны матар'ял.

Так, у 1925 г. попыт на прышчэпы быў прыблізна каля 800 тыс. штук. Пасадцы новых садоў дапамагае галоўным чынам земляўпарадкаваньне, якое зьвязана з пашырэньнем плошчы сялібных зямель.

Агульная плошча садоў у Беларусі ў цяперашні час дасягае да 23,151 гэкт. (21,192 дзес.), што складае амаль што 10 проц. сялібных зямель рэспублікі. Па катэгорыях землякарыстацеляй уся гэта плошча садоў падзяляецца на дзьве групы: сады сялян (*Каля 60,18%*) і сады дзяржаўнай маемасьці (*39,82 проц.*).

Вельмі цікава, што па багацьцю садамі некаторыя акругі значна адрозьніваюцца адна ад другой. Паказваю гэта ў табліцы.

| АКРУГІ | Плошча садоў у гэктар. | | | % да агульнай плошч. садоў | На 1000 гэкт удобных с.-г. зямель прыпадае садоў |
|---|---|---|---|---|---|
| | Сады сялян. | Сады дзярж. маемасьці | Усяго садоў у акрузе. | | Гэктары |
| Віцебская . . . | 3542 | 1336,9 | 4878,9 | 21.00 | 6,2 |
| Менская . . . | 2034 | 1562,9 | 3596 9 | 15,55 | 5,1 |
| Бабруйская . . . | 2007 | 1515 0 | 3522.0 | 15,22 | 4,8 |
| Магілёўская . . . | 1473 | 1872,6 | 2345,6 | 10,12 | 3,7 |
| Аршанская . . . | 1372 | 576.0 | 1929.0 | 8,35 | 3,9 |
| Полацкая . . . | 810 | 948.7 | 1758,7 | 7,60 | 3,1 |
| Слуцкая . . . | 734 | 886,0 | 1620,0 | 7,04 | 3,1 |
| Калінінская . . . | 864 | 599 4 | 1463.5 | 6,32 | 2,7 |
| Барысаўская . . . | 677 | 456 4 | 1161,0 | 5,00 | 2,9 |
| Мазырская . . . | 419 | 840,5 | 875,4 | 3,80 | 1,2 |
| Па Беларусі . . | 13932 | 9219,0 | 531 51.0 | — | 3,8 гэтка. |

Такім чынам, найбольш садовымі акругамі зьяўляюцца Віцебская, Менская, Бабруйская, Магілёўская і Аршанская. Разьвіцьцю пладаводзтва ў гэтых акругах дапамагаюць буйныя мясцовыя рынкі (*Менск, Віцебск Магілёў*) і, галоўнае, чыгункі, якія злучаюць гэтыя акругі з

Маскоўскім і Ленінградзкім рынкамі. На апошнім месцы па разьвіцьцю садоўніцтва стаяць Барысаўская і Мазырская акругі, дзе маюць перавагу пескавыя і балотныя глебы, а яны мала спрыяюць разьвіцьцю пладовых дрэў.

Далей вельмі цікавым пытаньнем зьяўляецца склад дрэў у садох па пародах. З гэтага боку сялянскія сады па абсьледаваньню іх вясною мінулага году даволі выразна выяўляюць свой паўпрамысловы характар. Паказваю гэта ў табліцы.

| АКРУГІ | Процэнтнае разьмеркаваньне плошчы садоў пад паасобнымі пародамі дрэў. | | | | На адзін гэктар прыпадае дрэў. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Пад яблынамі | Пад ігрушамі | Пад сьлівамі | Пад вішнямі | |
| Віцебская . . | 63.0 | 4.6 | 15,7 | 16,7 | 204 |
| Менская. . . | 42,6 | 11.16 | 13,3 | 32,5 | 202 |
| Бабруйская . . | 71.3 | 8.7 | 12,5 | 7,5 | 163 |
| Магілеўская. . | 62,6 | 8.6 | 21.6 | 7,2 | 165 |
| Аршанская . . | 57,7 | 6,5 | 25,5 | 10.3 | 150 |
| Полацкая. . . | 57,2 | 6.8 | 14,9 | 21,1 | 143 |
| Слуцкая . . . | 41,8 | 26,4 | 12,7 | 19,1 | 154 |
| Калінінская . . | 51.9 | 7 5 | 29,7 | 10,9 | 152 |
| Барысаўская . | 47,2 | 10,7 | 18,5 | 23.6 | 169 |
| Мазырская . . | 41,0 | 32,8 | 16,9 | 9,3 | 156 |
| Па Беларусі . | 55,9 | 10,4 | 17.3 | 16,4 | 175 |

Такім чынам, і тут на разьмеркаваньне садовай плошчы пад асобнымі відамі пладовых дрэў мае ўплыў рынак. Чым большы ў акрузе рынак альбо чым лепш яна зьвязана з буйнымі замежнымі рынкамі, тым большы процант мы знаходзім яблын; і наадварот, дзе буйных рынкаў няма, там яблын менш, а замест іх зьяўляюцца ігрушы, сьлівы, вішні. Усё гэта сьведчыць, што наша сялянскае садоўніцтва, хоць яно і складаецца з дробных садоў, мае напрамак *поўпрамысловы*. Але апрача рынкаў, на разьмеркаваньне плошчы над markрознымі пародамі дрэў мае ўплыў і клімат (*аб чым гаворыць павялічэньне плошчы пад ігрушамі ў Мазыршчыне і Случчыне*).

З Беларусі да вайны ўраджай садовіны вывозіўся ў буйныя гарады Расіі. Так, у 1911—13 г.г. выват у сярэднім складаў 920.000 пуд. Тут галоўную частку яблык давалі панскія сады, але да гэтага патоку яблык далучаліся і сялянскія ўраджаі садоў праз перакупшчыкаў.

Што датычыць садоў, якія знаходзяцца на землях дзяржаўнае маемасьці, то тут плошча па асобных пародах дрэў разьмяркоўваецца так: яблыні займаюць 95 проц. ад усёй плошчы, ігрушы 4 проц. і сьлівы з вішнямі 1 проц.; на 1 гэктар прыпадае прыблізна 116-120 дрэў. У гэтых садох яблыня займае значнае месца, што можа тлумачыцца выключна прамысловым напрамкам б. панскіх садоў.

Агульны збор садовіны ў мінулым годзе вылічваецца так:

| ЗБОР САДОВІНЫ | У тысячах пудоў | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | Яблык | Ігруш | Сьліў | Вішань | |
| Агульны збор 1925 г. . . | 5729,4 | 652,5 | 411,8 | 273,5 | 7067,2 |
| Сялянскія сады далі . . . | 3452,4 | 545,2 | 409,1 | 235,9 | 4642,6 |

*Пладовыя выхавальнікі Беларусі*, як крыніцы для масавай дастаўкі насельніцтву прышчэпаў, таксама значна аднавіліся і пашырыліся за апошнія два-тры гады. Агульнае становішча выхавальнікаў на Беларусі даволі добрае. Паказваю гэта ў табліцы.

| АКРУГІ | Колькі выхав. | Агульная плошча выхавал. у гэкт. | У выхавальніках ёсьць | | | | | Прадана прышчэпаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Дзічак у тысяч. | Завачкованых у тысяч. | Аднагодак | Двухгодак | Трохгодак | |
| Бабруйская . . . | 13 | 10,39 | 148,7 | 37,9 | 10500 | 2300 | — | — |
| Барысаўская . . | 5 | 12,33 | 46,5 | 16,6 | 6.260 | 900 | 35800 | 2200 |
| Віцебская . . . | 1 | 7,65 | 2,5 | 8 | — | — | — | — |
| Калінінская . . . | 14 | 17 | 64,5 | 17 | — | --- | — | 1300 |
| Менская . . . . | 4 | 25,15 | 90 | 39,6 | 13900 | 1500 | 1000 | 26800 |
| Магілеўская . . . | 15 | 12 | 103,5 | 2 | 17300 | 10000 | 5800 | 3900 |
| Мазырская . . . | 2 | 9 | 25 | 7 | 400 | 1200 | — | — |
| Аршанская . . . | 6 | 21,19 | 87,5 | 33,7 | 20700 | 4200 | 2600 | 2100 |
| Полацкая. . . . | 1 | 4,38 | 27 | 5 | 1600 | 100 | 700 | 1000 |
| Слуцкая . . . . | 33 | 12,47 | 93,5 | 42,3 | 16300 | 8000 | — | 6900 |
| Па Беларусі. | 94 | 131,56 | 688,7 | 209,1 | 86960 | 28200 | 136800 | 44200 |

З усіх садовых выхавальнікаў большасьць (52) зьўляюцца сялянскімі з агульнай плошчай 8,32 гэкт. Амаль што ўсе сялянскія выхавальнікі заснованы ў 1922-25 г. г., што сьведчыць аб жаданьні насельніцтва пашырыць садоўніцтва ў сваёй гаспадарцы. Па вялічыні плошчы першае месца займаюць выхавальнікі Белсельтресту (19 выхавальнікаў—38,82 гэкт.) і Акрземаддзелаў (5 выхав.—35,22 гэкт.).

Такім чынам бачым, што ў 1925 г. ўсе нашы садовыя выхавальнікі далі *44,200 прышчэпаў*. Вядома, што гэта здаволіла попыт селяніна на прышчэпы толькі на 10 проц. Такое ня поўнае здавальненьне попыту на прышчэпы пэўна будзе ў нас яшчэ 2-3 гады, пакуль ня вырастуць прышчэпы з нашых цяперашніх завачкованых дзічак.

Патрэбна-ж садоўніцтву БССР штогод прыблізна каля 800 тысяч прышчэпаў.

**К. Хабэнка.**

# Нашы лепшыя сарты зімовых яблык*).

Асноўная мэта нашага садоўніцтва—забясьпечыць сьвежымі пладамі спажыўца на ўвесь год.

Найбольш цікава мець яблыкі ў сакавіку (III месяц), красавіку (IV месяц), траўні і нават чэрвені (V і VI месяцы). Продаж пладоў у гэтыя месяцы для садавода вельмі карысна.

Добра пастаўлена культура зімовых яблык у Амэрыцы. Нямеччына за апошнія 30 год зрабіла значныя дасягненьні ў гэтым напрамку. Мэта нашых дасьледчых садовых устаноў—узяцца за працу па вывучэньню трывалых зімовых сартоў і па вывядзеньню новых і лепшых. Вынікі працы І. У. Мічурына па стварэньню для халоднага клімату Тамбоўшчыны зусім надзвычайных сартоў ігруш, яблык, якія захоўваюцца бадай да траўня і пазьней—даюць упэўненасьць, што ўпартасьцю дасьледчыкаў-садаводаў і ў нашых умовах будуць зроблены значныя посьпехі.

Наш асноўны фонд зімовых яблык пакуль што складаецца, галоўным чынам, з антонаўкі.

М. В. Рытаў адзначыў больш, як 10 сартоў антонавак. Я. К. Мароз (Лепельшчына) падзяліў антонаўку на 6 груп і ў сваіх садох з імі ён мяне знаёміў (ўвосень 1925 г.). Вядомы садавод з Ковеншчыны А. Грабніцкі апісвае толькі адзін сорт антонаўкі, лічучы, што ў мясцовых варунках на атрыманыя з розных куткоў адмены антонаўкі ўплывалі клімат, глеба і г. д.

Падкрэсьлім, што з практычнага боку варта адзначыць антонаўку звычайную (простую), троху меншую і плоскую. Дасьледавана, што з плада антонаўкі высокай формы маюць мяккае мяса і ўжо ў студзені (I месяц) трухлеюць. Гэта тычыцца белай, $1^1/_2$ фунтовай і звычайнай антонаўкі.

Наадварот, плоскія плады антонаўкі камянічкі маюць моцнае мяса, добрую вагу і трымаюцца ў добрым склепе да красавіка. Вось чаму камянічку заўсёды лёгка прадаць, апроч таго, у садзе, дзе больш гэтага сорту, бывае малаападу. Антонаўка мае салодка-кваскаваты смак, асабісты пах і вельмі здавальняе насельніцтва. Антонаўка добра ідзе ў сушку, яе добра мачыць і яна дае добрае віно.

Яшчэ доўга нам прыдзецца зьвяртаць увагу на распаўсюджваньне антонаўкі камянічкі ў сялянскіх садох. Дрэвы антонаўкі вельмі трывалы. У Горацкім помолёгічным садзе за шмат дзясяткаў год камянічкі згінула 7,5 проц., хворых—5 проц.

Да трывалых зімовых яблык трэба аднесьці і бабушкіна. Плады вельмі цэнныя. Моцна трымаюцца на дрэвах. Добра захоўваюцца ў склепе да траўня і пазьней. Зялёны колер памалу пераходзіць ў жоўты з ружовым афарбаваньнем. Драўніна вельмі здаровая і ў самыя студзёныя зімы ня гібее. Недахопам гэтага сорту зьяўляецца тое, што бабушкіна пачынае добра пладанасіць толькі праз 15 год пасьля высадкі ў сад. Вось чаму мы раім высаджваць яго ў нязначным ліку (на 10 дрэў антонаўкі 1 дрэва бабушкіна). *Антонаўка і бабушкіна зьяўляюцца пэўнымі гандлёвымі сартамі для Усходняй Беларусі* (Віцебшчына і Магілеўшчына). На захадзе і поўдні лік зімовых сартоў павінен павялічыцца.

*) Па тэхнічным умовам нельга было ілюстраваць гэты артыкул. (*Рэд.*).

Вядомая пэпінка літоўская распаўсюджылася з Горадзеншчыны далёка на ўсход. Па нашым досьледам у Віцебшчыне, Аршаншчыне на глiністых глебах драўніна пэпінкі хварэе, чаму гандлёвай вартасьці там ня мае. Паўднёвыя акругі Беларусі (Бабруйшчына, Случчына, Гомельшчына) спрыяюць разводу пэпінкі. Гэтыя дрэвы пачынаюць пладанасіць на 3-4 годзе пасьля высадкі. На працягу 15 год карэньні гэтага сорту выцягваюць з глебы ўсе пажыўныя часткі, дзеля чаго сад патрэбна вельмі добра ўгнойваць і праз 2-3 гады ўнасіць фосфарныя і калійныя парашкі і вапну. Плады пэпінкі трываюць да лютага і сакавіка, але найлепшы смак маюць у сьнежні і студзені.

**М. І. Бурштэйн.**

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Як організаваць пчалярную гаспадарку.

(*Парада пачынаючаму пчаляру*).

Калі вы надумаліся заняцца пчалярствам, а заняцца гэтым належыць, то спачатку вам трэба выбраць сыстэму вульля пад сваю пасеку.

Пры выбары вульля для пасекі не заўсёды трэба браць прыклад з свайго суседа. Лепш зьвярнуцца за парадай да інструктара ці пачытаць добрую кнігу. Лепшай сыстэмай вульля ў нас лічыцца вулей Дадана, як па свайму ўстройству, так і па выгадзе працы з ім. Ня трэба мець на пасецы вульлі розных сыстэм; жадана, каб рамка аднаго вульля прыпадала да іншых вульлёў на пасецы.

Пачынаючаму пчаляру даволі мець некалькі вульлёў. Для пачатку лепш завесьці два-тры вульлі і на іх павучыцца пчалярству. У іншым выпадку няўдачы могуць адбіць ахвоту да пчалярства.

Вульлі лепш ставіць у пладовым садзе каля хаты. Расстаўляць вульлі можна радкамі або купамі, пры чым у апошнім выпадку лепш ставіць вульлі ляткамі ў розныя бакі, каб пчолы ня перашкаджалі адна другой пры лёце. Звычайна пры пастаноўцы вульлёў радкамі ляткі бываюць з паўднёва-ўсходняга боку. Пры разьмеркаваньні вульлёў групаю глядзяць за тым, каб не паставіць вульлі ляткамі на поўнач, бо гэта затрымоўвае раніцою вылет пчол на працу. Паміж вульлёў трэба пакідаць праход, каб пры аглядзе іх ня перашкаджаць працы пчол суседніх вульлёў. Вульлі ставяцца ў цяні дрэў, ня бліжэй 4 мэтр, (6 арш.) адзін ад другога, на ўбітых у зямлю кольлях з прыбітымі зьверху планкамі (гл. мал.). Калы не павінны быць вышэй $^1/_2$ мэтр. ($^3/_4$ арш.). Лічыцца карысным навакол кожнага вульля, галоўным чынам, з прылётнага боку, здымаць дзярніну і пасыпаць жоўтым пяском. Пчаляру цікава бачыць, што выкідваюць пчолы з вульля. Таксама пчолы ня будуць здабыткам жаб і павукоў, якія хаваюцца каля вульлёў у траве.

Лепш усяго заводзіць пасекі ў месцах, захаваных ад халодных ветраў. Трэба таксама, каб на пасецы ня было высокіх дрэў, якія перашкаджаюць здымаць раі. Дрэнным месцам для пасекі будзе месца каля вялікай ракі ці возера, бо пчолы пры пералёце цераз іх гінуць у

вадзе, асабліва пры моцных ветрах. Лепшым месцам для пасекі лічыцца месца каля сенажаці, лесу, поля і асабліва пладовыя сады, гароды і там, дзе блізка ёсьць поле з грэчкаю.

Пасеку трэба абгарадзіць, каб туды не заходзіла скаціна, якая непакоіць пчол.




Разьмеркаваньне вульлёў на пасецы.

На пасецы неабходна мець пчалярскія прылады, як дымар Бінгама, сетка для абароны твару ў часе працы на пасецы, кручок-стамеску для рассоўваньня рамак і саскрабаньня пчалінага клею, раёўня Бутлярова, нож для падразаньня сотаў і вырэзваньня воску; рабочая скрынка з вечкам для пераноскі рамак з мёдам; мёдагонка і шафа для захаваньня рамак, воску і штучнае вашчыны.

Шкадаваць грошы на набыцьцё неабходных прылад, бязумоўна, ня трэба, бо выгада ў працы і будучы прыбытак ад пасекі акупяць гэтыя траты.

Ів. Фэдарака.




## Сельская гаспадарка Нямеччыны.

*(Жывёлагадоўля).*

У нумары 12 „Плуга“ была апісана палявая гаспадарка Усходніх Прусаў. Зараз коратка апішам свае ўражаньні ад жывёлагадоўлі Нямеччыны.

*Коні.* Ва Усходніх Прусах маюць перавагу дзьве пароды коняй (цяжкая і лёгкая). Першая парода цяжкавозаў па надворнаму выгляду вельмі падобна да ардэнскіх коняй (яны вядомы і нашым гаспадаром). Нямецкі цяжкавоз мае тоўстую і кароткую шыю, вялікую галаву, нізкі грыф і зьвіслы зад. Такім канём карыстаецца большасьць нямецкіх гаспадароў Усходніх Прусаў, дзе маюцца добрыя дарогі, даволі корму, а глыбокая воранка поля патрабуе ад каня сілы.

Другая парода больш лёгкіх коняй па свайму складу адрозьніваецца ад цяжкавозаў. Яна больш сухая, з высокім грыфам, шпарка на ход. У гаспадарцы такім канём карыстаюцца на лёгкіх работах, а таксама і пры выездах. Выкарыстоўваецца гэты конь і пад сядло.

Дзеля падтрыманьня гэтых парод коняй у чыстаце, таксама і для далейшага іх палепшаньня, ва Ўсходніх Прусах ёсьць два спэцыяльных саюзы нямецкіх гаспадароў: адзін аб'ядная гаспадароў, якія займаюцца гадоўляй коняй грузнага тыпу, а другі—лёгкага тыпу. Пры гадоўлі коняй асаблівая ўвага зьвяртаецца на маладняк (правільнае і добрае кармленьне, прывучваньне к кармленьню на выпасах і г. д.). Дзеля заахвочваньня гаспадароў-заводчыкаў саюзы штогодна організуюць выстаўкі—кірмашы, спробу коняй і г. д.

*Буйная рагатая скаціна.* Большасьць гаспадарак усходніх Прусаў маюць жывёлаводны ўхіл. Гэта знача, што большая частка даходу ў гаспадарцы бывае ад жывёлагадоўлі, а не ад прадажы продуктаў палявой гаспадаркі. У жывёлагадоўлі немцы асабліва цэняць буйную малочную жывёлу. У большасьці нямецкіх гаспадарак пашырана мясцовая парода кароў (90%). Выведзена яна з мясцовай пароды і галяндэрскай; цяпер яна завецца *ўсходня-прускай галяндэрскай* каровай. Па сваёй масьці гэта—чорна-стракатая карова, падобная да тых галяндэрскіх, якія сустракаюцца і ў нас. Але адрозьніваюцца яны ад галяндэрскіх лепшым здароўем, трываласьцю і мясістасьцю.

Пры сярэдняй вазе ў 32—35 пуд. гэта карова дае 200—220 вёдзер малака пры 3,8% жыру. Пры вывядзеньні гэтай пароды гаспадары Нямеччыны асаблівую ўвагу зьвярталі на ўдоі, добрыя племянныя якасьці і здароўе кароў. Усяго гэтага яны дасягнулі.

Прыблізна поўгода (красавік—кастрычнік), каровы Нямеччыны пасуцца на выгане, там-жа яны ў добрую пагоду і начуюць. Пасьба

скаціны звычайна вольная, бяз прывязі. Для паступовага спасваньня травы ўвесь выган падзяляецца на некалькі вучасткаў, якія спасваюцца па чарзе. Дзеля павышэньня даходу з кароў, ацёл іх гаспадары падганяюць прыкладам на кастрычнік—люты месяцы, калі малако мае больш высокія цэны. Зімою кароў кормяць, апрача сена і саломы, у значным ліку кораньплодамі і спажыўнымі кармамі, як макуха, высеўкі, мука з гароху, ячменю і г. д.

У лепшых гаспадарках хлеў для жывёлы будуецца з каменьня, з каменнай ці цэмантоваю падлогай, з прыладамі дзеля нагрэву вады, запарваньня корму, самапойкі і г. д. У гаспадарках ёсьць сячкарні, корнярэзкі і другія машыны для падгатаваньня корму.

Для аховы сваёй пароды ў чыстаце і яе палепшаньня ва Ўсходніх Прусах таксама маецца саюз жывёлаводаў, які вядзе запіс племянных кніг, арганізуе выстаўкі гэтай пароды, вывучае малочнасьць і г. д.

*Сьвінагадоўля.* У гэтай галіне жывёлагадоўлі немцы таксама асабліва цэняць мясцовую пароду сьвіней. З гэтай пароды, прыпускаючы кноразаў белай ангельскай сьвіньні (йёркшыра), гаспадары Усходніх Прусаў вывелі сваю пароду палепшанай вясковай сьвіньні. Цяпер гэта сьвіньня значна пашырана ў нямецкіх гаспадарках. Сьвіньня гэта добра выкармліваецца на сала і мяса, любіць выган. Гэтыя сьвіньні трывалыя, здаровыя і хварэюць менш, чым чыстыя ангельскія. Парасят пад сьвіньнёю трымаюць да 2 мес. У чатыры месяцы іх ужо пускаюць на выган. Выганамі ў немцаў часьцей над усё бывае канюшына. Гэта ў немцаў лічыцца вельмі танным спосабам выкармліваньня сьвіней. Узрост, у які прыпускаюцца сьвіньні да кноразаў, лічыцца такім: для сьвіньні ні ў якім разе не раней 10—12 мес., для кноразаў не раней 9—10 мес.

Апрача гэтай мясцовай палепшанай сьвіньні, гаспадары Нямеччыны трымаюць яшчэ і больш культурную сьвіньню, падобную да ангельскай (йёркшыра). Усе гаспадары, якія займаюцца гадоўляй сьвіней той ці іншай пароды, аб'яднаны ва „Ўсходня-Прускі саюз сьвінаводаў".

*Авечкі.* Ва Ўсходніх Прусах авечкі, як і ў нас, ня маюць такога значэньня ў гаспадарцы, як буйная рагатая скаціна або сьвіньні. Але немцы зьвярнулі ўвагу і на палепшаньне сваёй авечкі. Немцы разводзяць авец, так званых палепшаных, мяса-шарсьцяных. Адны авечкі бываюць з лепшай воўнай, а другія лепш трымаць на мяса, але яны з горшай шэрсьцю. Ад нашай авечкі (яна вельмі малая), нямецкая авечка адрозьніваецца большай вагою (3—3½ пуд., баран да 5—6 пуд.). За дзьве стрыжкі з нямецкае авечкі можна мець да 4 кілёгр. і болей воўны.

У час вайны жывёлагадоўля немцаў значна зьменшылася лікам, таксама падупала і якасьць яе. Зараз жывёлагадоўля прымае даваенны стан. Наогул-жа, у галіне жывёлагадоўлі гаспадары Ўсходніх Прусаў дасягнулі значных вынікаў. Цікава і тое, што падыходы да гэтага ў іх былі тыя-ж, што і агрономы Беларусі раяць у нас. Іх можна акрэсьліць так:

1. Выразна паставіць сабе тыя якасьці, якія пажадана мець у нашай жывёлы.

2. Зьвярнуць больш увагі на палепшаньне мясцовай жывёлы і з яе выводзіць трывалыя пароды (праз пільны падбор вытворнікаў, добры догляд і кармленьне).

3. Пачаць шырокую сумесную працу ў галіне жывёлагадоўлі (палепшаньне мясцовай жывёлы праз контрольныя таварыствы, т—вы па збыту малочных продуктаў, арганізацыю спэцыяльных саюзаў з запісам у племянныя кнігі і г. д.).

**А. Міхайлаў.**

# Досьледы па кармленьню кароў.

*(З досьледаў Турскай с.-г. дасьледчай станцыі).*

Жывёлагадоўля ў сельскай гаспадарцы БССР мае вялікае значэньне. Асабліва яна цэнна ў гандлёвай сувязі гаспадаркі з рынкам. Разьвіцьцю жывёлагадоўлі таксама спрыяюць і нашы прыродныя ўмовы (мажлівасьць павялічэньня корму, добры выпас і г. д.).

Але гаспадару трэба падумаць над спосабам павялічэньня продукцыйнасьці малочнай скаціны, якая пакуль яшчэ нізкая (у сярэднім 30-40 вёдзер гадавога ўдою на адну карову).

Каб павысіць удой каровы, якая перарабляе сена, салому, макуху, корняплоды, бульбу ў малако, трэба трымаць у чыстаце і цяпле; добра і правільна карміць.

„Чыстата—матка здароўя"—гэта верна ня толькі для чалавека, але і для жывёлы. Вопытам даведзена, што калі карову трымаць у чыстаце, то павышаецца ўдой. І наадварот, трыманьне каровы ў брудным і душным памяшчэньні зьмяншае ўдой. Апрача таго, каровы ў такім хлеве часьцей хварэюць. У памяшчэньні, дзе стаяць каровы, патрэбна цяплыня ў 10-12°. Калі ў хлеве халадней 10°, тады карова траціць больш корму на падтрыманьне цяплыні і зьмяншае ўдой малака. Таксама важна і праветрываць хлеў.

*Кармовыя нормы.* Правільнае кармленьне—гэта кармленьне па нормам, па вазе. Пры гэтым жывёле даецца столькі корму, колькі яна можа зьесьці ў залежнасьці ад свайго росту і ўдойнасьці. Для кармленьня кароў лепшымі будуць дацкія кармовыя нормы.

Усякі корм у залежнасьці ад яго пажыўнасьці і ступені страўнасьці ацэньваецца кармовымі адзінкамі. Напрыклад, мурожнае сена 3 ф. —1 карм. адзінка; 1 фун. макухі ці высевак—1 адзінка; 6 фун. яравой саломы ці 10 фун. кармовых буракоў таксама 1 карм. адзінка і г. д. Каровам па дацкаму спосабу трэба даваць па 1 кармовай адзінцы на кожныя 3 пуды жывой вагі і 1 кармовую адзінку на 3 фун. малака.

Найбольш цэннымі кармовымі продуктамі зьяўляецца моцны корм—мука, высеўкі, макуха; сочны корм—корняплоды (кармовая морква, буракі, турнэпс і бульба).

*Як павышае ўдоі Турская дасьледчая с.-г. станцыя.* Гаспадарка мае гурт кароў розных парод. Пачынаючы з 1923 г. дасьледчая станцыя прымае меры, каб павысіць удоі сваіх кароў, якія пры нізкіх удоях 21 і 22 году далі ўбытак гаспадарцы. Паказваю табліцу гадавых удояў і кармленьня кароў за 5 год (1921—1925 г.).

| Гады. | Кармавых адзінак на 1 карову ў год. | Сярэдні гадавы ўдой каровы. | |
|---|---|---|---|
| | | Пудоў. | Вёдзер. |
| 1921 . . | 1008 | 37 п. 28 ф. | 48 |
| 1922 . . | 1324 | 43 „ 16 „ | 56 |
| 1923 . . | 2334 | 61 „ 15 „ | 79,2 |
| 1924 . . | 2405 | 81 „ 33 „ | 105 |
| 1925 . . | 2599 | 100 „ | 129 |

Гадавыя ўдоі аднае каровы (у сярэднім).

Колькасьць корму ў год на адну карову (у сярэднім).




**1921**
Азімае саломы 122 п.
Мукі . . 28 ф.

**1922**
Ярав. саломы 68 п.
Сена . . 40 „
Мукі . . 24 ф.

**1923**
Ярав. саломы 85 п.
Сена . . 62 „
Мукі . . 5 „ 31 ф.
Макухі . . 3 „ 38 „
Бульбы . . 88 „

**1924**
Ярав. саломы 85 п.
Сена . . 72 „ 24 ф.
Мукі . . 3 „ 14 „
Макухі . . 2 „
Бульбы . . 7 „ 20 „
Буракоў . . 88 „

**1925**
Ярав. саломы 85 п.
Сена . . 75 „
Мукі . . 3 „ 24 ф.
Макухі . . 7 „ 21 ф.
Бульбы . . 18 „
Буракоў, Турнэпсу, Морквы . 78 п. 10 ф.

У 1923 годзе дасьледчая станцыя зрабіла цёплы хлеў, кармушкі, пачала правільна карміць па вазе кароў, прыбавіла да саломы і сена макуху, муку, буракі, моркву і бульбу, дзякуючы чаму ўдалося павысіць удоі да 129 вёдзер малака ад аднае каровы (1925 г.). У 1921 і 1922 г. каровы давалі ўбытак (калі ўзяць кошт корму, выпас і догляд). У 1925 г. каровы даюць значны чысты даход (да 45 руб. на адну галаву).

Карысьней даваць корняплоды разам з макухай і мукой.

Зараз-жа пасьля ацёлу, карове трэба палепшыць і павялічыць дачу корму. Каровы добра аплачваюць клапатлівы догляд і добрае кармленьне.

Можна павысіць даходнасьць гаспадаркі, калі організаваць перапрацоўку малочных продуктаў у сыр і масла, што лягчэй і выгадней зрабіць праз арцелі ці даручыўшы гэта свайму коопэратыву.

Сяляне! Ідзеце па прыкладу Турскай с.-г. дасьледчай станцыі. Будуйце цёплыя хлявы, заводзьце кармушкі, кармеце кароў кораньплодамі і моцнымі кармамі па вазе—вы павялічыце ўдоі сваіх кароў.

Б. Бабіцкі.

---

# Значэньне солі ў корме жывёлы.

Калі-б мы зрабілі хэмічны аналіз з целам жывёлы, то пабачылі-б, што, апрача вады, белкавіны, жыру і крухмалу, у складзе цела жывёлы знаходзяцца і часткі мінэральныя, якія пасьля спаленьня выглядаюць, як попел. Гэтыя мінэральныя часткі (інакш солі) знаходзяцца ў складзе цела, крыві і іншых соках цела, дзе маюць важнае значэньне.

У касьцёх жывёлы знаходзіцца значная колькасьць вапны (дзякуючы гэтаму яны такія моцныя); у крыві знаходзіцца жалеза.

З гэтага вынікае, што жывёла для разьвіцьця свайго цела патрабуе шмат рознай солі і тым больш, чым большая яе вага.

Як пры карыстаньні машынай некаторыя яе часткі псуюцца і трэба іх замяняць новымі, так і ад дзейнасьці цела некаторыя яго часткі праз нейкі час мусяць быць заменены новымі. Гэта адбудова частак цела бывае найбольш энэргічнай у організме (целе) малочнай жывёлы. У гэты час у яе ня толькі павінны быць заменены страты цела ад самога жыцьця жывёлы, але і страты на вытворчасьць малака.

Цела жывёлы патрабуе солі яшчэ і па іншай прычыне. Аналіз калу і мачы паказвае, што ў іх знаходзяцца солі, якія зьяўляюцца ад зьмен у целе.

Калі-б мы пачалі, напрыклад, сабаку карміць мясам, з якога-б перад тым вылучалі ўсе солі мачэньнем ці гатаваньнем, то праз нейкі час сабака гэта захварэе і здохне. Значыць, цела сабакі патрабуе заўсёды розныя солі. Малочная карова патрабуе солі больш, чым карова, якая ня доіцца. Цельная карова вымагае больш солі, чым ялавая, з тэй прычыны, што першая карова, апрача патрэбы ўласнага цела, павінна нейкую частку солі аддаваць і на ўтварэньне плада.

Пры натуральным кармленьні жывёла ў корме і вадзе знаходзіць для разьвіцьця і дзейнасьці організму патрэбную колькасьць солі (перш усяго тыя солі, дзе ёсьць фосфар, вапна і звычайная сталовая соль). Але не заўсёды ў корме гэтыя солі знаходзяцца ў патрэбнай колькасьці, што залежыць ад розных прычын.

Тут вялікае значэньне мае тое, які корм мы даём жывёле. Напрыклад, шмат фосфарнай солі мае зярно, высеўкі, макуха і зусім мала салома, брага; нямнога знаходзіцца вапны ў саломе, бразе, а шмат яе ў канюшыне і ў некаторым сене.

Расьліны бяруць мінэральныя часткі з зямлі, на якой растуць; ад таго, як багата зямля на гэту соль, будзе залежыць і колькасьць яе ў расьлінах (значыцца і ў корме). Колькасьць солі таксама залежыць і ад угнаеньня.

Корм не заўсёды мае патрэбную для скаціны колькасьць солі, а гэта мае дрэнны ўплыў на кармленьне, здароўе і ўдоі малака.

У некаторых мясцовасьцях, напрыклад, у Мазыршчыне, дзе грунты тарфяныя, а ў пашы і вадзе недахват вапны, можна заўважыць, што жывёла бярэ з уласнага організму (з касьцей) патрэбную для жыцьця вапну; ад гэтага косьці ў такой жывёлы ня маюць моцы і цьвёрдасьці, яны робяцца крохкімі. У такой жывёлы з усякае прычыны ломяцца косьці (найчасьцей рэбры, тазавая косьць, ногі), што асабліва часта здараецца ў дойных кароў і цяжарнай жывёлы. Што нястача вапны зьяўляецца прычынай гэтай хваробы відаць з таго, што каровы пасьля таго, як ім даць гэтай солі, у працягу кароткага тэрміну здаравеюць.

Недастача вапны ў корме пры гадоўлі маладой жывёлы зьяўляецца прычынай такой-жа хворасьці. Косьці не атрымоўваюць нормальнай цьвёрдасьці, дзякуючы чаму крывяцца, а часта на канцох таўсьцеюць. Такое разьмякчэньне касьцей часта здараецца ў парасят, якіх кормяць выключна бульбай ці малапажыўнымі кухоннымі памыямі; ня так часта ў цялят і жарабят. Недахват солі ў корме можна заўважыць і па надворным выгляду жывёлы, якая мае шэрсьць бяз бляску. Пры правільным кармленьні, гэтай хваробы ніколі ня будзе і, калі яна здарылася, то можна вылячыць. Калі корм ужо сам па сабе бедны на вапну і фосфар, то праз дадачу да корму фосфарытавай мукі, вапны, альбо касьцяной мукі, гэткі корм можна паправіць.

Жывёла патрабуе ў корме адпаведнай колькасьці і кухоннай солі. Соль гэта зьяўляецца вельмі важнай часткай у целе жывёлы, асабліва ў крыві і ў тых соках, якія дапамагаюць у страваваньні. Соль для жывёлы ёсьць ня толькі сродак спажыўчы, але і смакавы.

З гэтай прычыны добра даваць жывёле поўную колькасьць солі, асабліва кормнай і дойным каровам; аднак, многа даваць таксама дрэнна. Найлепш даваць соль каменную; тады жывёла будзе лізаць яе колькі патрэбна.

Такім чынам трэба памятаць, што жывёла павінна атрымаць патрэбную соль у корме ці праз дадачу патрэбнай колькасьці солі. Толькі такім спосабам мы зложым правільнае кармленьне і будзем мець высокую вытворчасьць нашай жывёлы.

**У. Даведчык.**

---

# Каняводства Беларусі ў 1924-1925 г.

Агульная колькасьць коняй на Беларусі ў 1924 годзе дасягала да 773.700 галоў; пры гэтым у рабочым узросьце было 79,58 проц. і маладняка 20,42 проц. У 1925 годзе лічба коняй узрасла на 13,02% і дасягнула да 890,692 галоў. Хуткае ўзрастаньне агульнай колькасьці трэба аднесьці на куплю коняй за абшарамі Беларусі і толькі 3 проц., як натуральны прырост.

Але ня гледзячы на хуткі ўзрост лічбы коняй, нагрузка на аднаго каня засталася бяз зьмены: на 100 дзес. пасеву прыпадае 27,4 коняй, а на аднаго каня 3,6 дзес. пасеву. Нязьменнасьць нагрузкі тлумачыцца пашырэньнем пасеўнай плошчы і таксама драбленьнем сялянскіх гаспадарак. Уплыў трактараў на нагрузку коняй нязначны. Усяго на Беларусі працуе 43 трактары і толькі 19 з іх працуюць па колхозах*).

Праца Наркамзема ў галіне агульнага палепшаньня коняй праводзілася праз злучку з племяннымі дзяржаўнымі жарабкамі, таксама с.-г. коопэрацыі, савецкіх гаспадарак і зарэгістраваных у сялян. У 1924 г. на злучпунктах лічылася 1177 сялянскіх жарабкоў, у 1925 годзе 1332. Усяго пакрыта матак у 1924 г. 22.370, у 1925 г. 35.494.

На с.-г. выстаўках адзначылася зацікаўленасьць сялян жарабкамі чыстых парод (найбольш арлоўскай рысістай пародай) і ўзрашчваньнем племяннога маладняка. Таксама сяляне зацікаўлены спробамі коняй на бег і перавозку цяжараў. Ніжэй дадаецца табліца параўнаньня конягадоўства ў 1924 і 1925 г. г.

| | 1924 г. | 1925 г. | Зьмена за 2 гады ў проц. |
|---|---|---|---|
| Агульная колькасьць коняй. . . | 773.700 | 890.692 | 19,02 |
| Маладняк да году ў процант. . . | 10,4 | 11,37 | + 0,97 |
| Маладняк ад году і больш у проц. | 10,02 | 11,93 | + 1,91 |
| У рабочым узросьце коняй у проц. | 79,58 | 76,7 | — 2.88 |
| Бязконных гаспадарак у проц. . | 19.36 | 17,0 | — 2,36 |
| Нагрузка на 1 каня ў дзес. . . | 3,6 | 3,6 | — |
| Колькасьць зарэгістраваных сялян. жарабкоў . . . . . . . . | 1177 | 1332 | +13,0 |
| Колькасьць жарабкоў саўхозкіх . | 48 | 53 | +150 |
| „ коопэрацыйн. | | 25 | |
| „ дзяржаўных. | | 9 | |
| „ іншых . . | | 33 | |
| Колькасьць пакрытых матак . . | 22.370 | 35.494 | + 4 |
| На 1 жарабка прыпадала матак . | 17,4 | 24,3 | + 6,9 |

Агульная колькасьць коняй у 1924 годзе дасягнула 120,3 проц. а ў 1925 г. 137,5 проц. ад 1913 г.

Павялічэньне проц. маладняка да 3 проц. сьведчыць аб тым, што сяляне імкнуцца замяняць старых коняй сваім маладняком, а ня купляй.

**С. Дыяконенка.**

*) Усяго ў БССР 375 сялянскіх колектываў.

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ

## Заразьлівыя хваробы ў птушак.

У свойскіх птушак, таксама, як і ў іншай жывёлы, ёсьць шмат розных хвароб. заразьлівых і незаразьлівых. Але найбольш цэрпіць наша птушніцтва ад заразьлівых хвароб, якія выклікаюцца праз так званую заразу (мікробы), дзякуючы якой адразу хварэе і прападае шмат курэй і іншых птушак. Тым большыя страты ад гэтых хвароб залежаць ад таго, што ніякае лячэньне хворым карысьці ня прыносіць: пры некаторых хваробах амаль што ўсе птушкі прападаюць. Вось чаму вельмі важна, каб своячасова запабегчы і ня даць убіцца тэй ці іншай хваробе ў сваю гаспадарку. А дзеля гэтага неабходна:

1) кожную новую набытую птушку ня можна адразу далучаць да сваіх кур у агульны катух, а патрэбна некаторы час (тыдні са 2) трымаць яе асобна і толькі тады, калі праз гэты час вызначыцца, што яна здаровая, можна пусьціць яе ў агульны катух;

2) калі вызначыцца, што адначасова прападзе ў катуху некалькі птушак, асабліва з аднолькавымі адзнакамі хваробы, тады гэта павінна паказваць, што нейкая зараза ўбілася ў катух і таму патрэбна заразжа ўсіх здаровых яшчэ на пагляд птушак перасадзіць з гэтага катуха ў іншы незаражаны і, разьбіўшы іх на дробныя парты, трымаць пасобку;

3) часамі вельмі карысна бывае на пачатку хваробы забіць усіх хворых і тых, што маглі заразіцца, каб адразу спыніць заразу;

4) трупы прапаўшых ад заразьлівай хваробы птушак найлепш спаліць, альбо глыбака закапаць у зямлю, і ні ў якім разе ня выкідваць на двор;

5) рэштку корму пасьля хворых, іх подсьціл, кал і інш. сьмецьце таксама лепш спаліць або закапаць глыбака ў зямлю разам з трупам;

6) пасьля таго, як хвароба скончыцца, увесь катух, сьцены, краты, седала і падлога павінны быць вычышчаны, вышараваны гарачым лугам і пабелены вапнай;

7) калі няма карбоўкі ці крэоліну альбо іншых лекаў, то патрэбна за імі зьвярнуцца да вучастковага вэтэрынара.

Вось гэтых простых спосабаў часта бывае досыць, каб забясьпечыць сваю гаспадарку ад заносу заразы, а таксама і ад пашырэньня яе, калі яна так ці інакш трапіцца.

Найчасьцей птушкі, і асабліва куры, заражаюцца і гінуць ад халеры, сухотаў і дыфтэрыту (круп).

1. **Халера** птушак—надзвычай заразьлівая хвароба, якая штогоду выклікае досыць значныя страты ў агульнай гаспадарцы. Звычайна гіне каля 90 проц. усіх захварэўшых. На халеру вельмі часта хварэюць куры і індыкі; менш падлягаюць гэтай хваробе качкі, гусі і га-

лубы. З халераю людзей яна нічога супольнага ня мае, апрача назвы, бо з птушак на людзей яна не пераходзіць.

Куры і іншыя птушкі заражаюцца халераю праз забруджаную яду і ваду. Хворыя куры брудзяць корм, ваду і гэткім чынам перадаюць заразу іншым птушкам. Часта зараза разносіцца праз гандаль, базары і выстаўкі. Прычына хваробы—мікроб, які распаўсюджваецца хворымі птахамі.

Захварэўшая курыца робіцца сумнаю, хада ў яе ня цьвёрдая, курыца пачынае сланяцца, пер'я начапурваюцца, крылы абвісаюць, грэбень і бародка зьлёгка сінеюць; апэтыт трацiцца, зьяўляецца вялікая смага; хворая курыца ходзіць рэдкім зялянавата-жоўтым, крывяністым, калам; з дзюбы выцякае сьлізь, якая цягнецца ў ніці; хворыя куры сядзяць з падкурчанымі пад жывот нагамі, спусьціўшы галаву і заплюшчыўшы вочы. Хвароба найчасьцей цягнецца ад некалькіх гадзін да 3-х дзён, але часамі зацягваецца і надаўжэй і тады птушкі паміраюць ад зьнясіленьня.

Пры ўскрыцьці прапаўшай ад халеры курыцы знаходзяць зьмены ў кішкох, у лёгкіх і на сэрцы.

Лячэньне халеры птушак лекамі вялікай карысьці ня прыносіць, хіба толькі з пачатку хваробы. Звычайна даюць піць заместа вады рашчын зялёнага (жалезнага) купаросу (1 часку на 100 част. вады), альбо салянога квасу (1:500), альбо два разы на дзень уліваюць праз рот па 1/2 чайной лыжачкі рашчыну з крэоліна (1:100 вады). Аднак, найлепшы спосаб лячэньня—гэта прышчэпка (уколы), якую можа зрабіць вэтэрынар. Прышчэпка робіцца здаровым курам і забясьпечвае іх ад гэтае хваробы.

Галоўным-жа чынам патрэбна сьцерагчыся, каб ня ўвозіць кур з заражаных мясьцін, аддзяляць здаровых ад хворых і трымаць катухі і падпечкі сухімі і чыстымі.

2. **Сухоты** ў курэй таксама ня рэдкасьць. Куры вельмі лёгка заражаюцца сухотамі ад кароў і людзей, бо сухоты кароў і іншай жывёлы, чалавека і птушак—адна і тая самая хвароба. Вось чаму там, дзе жыве сухотнік, куры часта хварэюць сухотамі.

Часьцей сухоты ў кур бываюць у кішкох і ў печанёх, бо зараза (мікроб сухотаў) уваходзіць праз рот і кішкі: куры падбіраюць кал хворых на сухоты птушак, харкавіньне сухотніка, альбо якое мяса заражанае сухотамі і такім чынам заражаюцца.

Захварэўшая на сухоты курыца робіцца мляваю, больш сядзіць, адстае ад іншых курэй, пачынае сохнуць, і нарэшце пазастаюцца ад яе скура ды косьці. Часамі на скуры, на галаве, на нагах знаходзяць большыя ці меншыя гузачкі і вопухі.

Пры ўскрыцьці прапаўшае ад сухот курыцы знаходзяць паміж іншым зьмены ў кішкох і печанёх: уся пячонка засеяна белавата-жаўтаватымі плямкамі, велічынёю з прасянае зярно і больш.

Сухоты—незьлячымая хвароба. Дзеля гэтага ўсіх хворых і падазроных на сухоты птушак патрэбна адразу зьністажаць, мяса іх закопваць у зямлю, а катухі і інш. дэзынфэцыраваць.

3. **Дыфтэрыт** *(або круп)* у курэй таксама заразьлівая паміж імі хвароба, ад якое гіне 80 проц. і больш.

Хворыя куры робяцца сумнымі, слабеюць, часта лажацца і становяцца рахманымі: калі іх бяруць на рукі, яны не працівяцца. Ды-

хаюць хворыя з расчыненай дзюбай, з хрыпам і сьвістам; шыя і галава выцягнутыя. Дзюбу трымаюць расчыненай і з яе выцякае ніцямі сьлізь. Язык і глыбей у горле абложаны: на іх відаць жаўтавата-шэрыя павалочкі (як пры ціпуне). Вочы загнойваюцца; пад вачыма знаходзяцца часамі мяккія, гарачыя і балючыя вопухі; векі запухаюць і склейваюцца. Калі пацісьнуць за нос, то з яго выступае брудноватая сьлізь, якая затыкае ноздры і перашкаджае курыцы аддыхваць. Калі хвароба часамі зацягваецца, то гэткія жаўтаватыя павалочкі аказваюцца і на кішкох; пачынаецца пранос (часам з крывёю). У маладых хвароба цягнецца праз 2—7 дзён, а ў старэйшых яна яшчэ даўжэй—ад 2 да 4 тыдняў і ў большасьці канчаецца сьмерцю.

Лячэньне трэба пачынаць як мага раней. Павалочкі ў роце трэба паволі здымаць мяккаю ватаю, намочанаю ў 3 проц. растворы соды. (3 част. соды на 100 ч. вады); ранкі, якія застануцца пасьля гэтага, добра змазаць іёдам з гліцарынаю (1 ч. іёду на 5 ч. гліцарыны) альбо нават і чыстым іёдам. Вочы і векі патрэбна прамываць растворам борнага квасу (1 чайн. лыжачка квасу на шклянку вады). Калі ў птушкі зьявіцца пранос, тады ніякія лекі ўжо не дапамогуць і хвароба звычайна канчаецца сьмерцю.

Пры гэтай хваробе, як і пры іншых заразьлівых хваробах, патрэбна выпаўняць усе спачатку адзначаныя спосабы дзеля папярэджваньня і спыненьня заразьлівых хвароб.

Апрача гэтых трох хвароб, у птушак сустракаецца яшчэ шмат іншых заразьлівых хвароб, якія пераходзяць на іх часамі з іншае жывёлы (вуглянка, шаленства, воспа, кароста і інш.)

Ів. Серада.

(Горкі. с.-г. Акадэмія)

# Што чытаць.

**Янка Грабоўскі. Аб насеньні.** (*ДВБ. Менск—25 г. 56 стар. Цана 8 кап.*) Аўтар зачапіў адну з цікавых і трудных с.-г. тэм ня толькі для селяніна, але і для агронома. Мо' загэтым аб насеньні трудна параіць селяніну патрэбную кнігу.

У сваёй брошуры аўтар дакладна і ў популярнай форме даволі поўна высьвятляе 16 спэцыяльных пытаньняў аб насеньні. Праўда, 1 і 16 пытаньні—„Патрэбнасьць добрага насеньня“ і „Патрэбнасьць аб'яднаньня сялянскіх гаспадарак“—трэба было-б разгарнуць шырэй. Так, аўтар ні слова не сказаў аб насенных таварыствах, іх ролі і працы ў справе палепшваньня пасяўнога матэрыялу (таксама ні слова аб працы саўхозаў у гэтым кірунку). У кніжцы ёсьць малюнкі, добрыя прыклады і таблічкі. Умела зроблена апісаньне некаторых машын па ачыстцы і сартаваньні насеньня.

Мова зразумелая і популярная. Выключэньне складаюць мо' некалькі слоў („траўё“, „зельле“, замест сарніны, або: „дзіцянё“, „капяшка“—замест дзіця, капа і г. д.). Але гэта драбніцы. Трэба спадзявацца, што ў другім выданьні ўсё гэта аўтарам будзе заўважана. Наогул-жа брошуру „Аб насеньні“ можна лічыць аднэй з лепшых кніг у сялянскай бібліотэцы.

С. Т.

# АГРОДАПАМОГА

## Праца дзіцячых клюбаў на працягу зімы.

Працу ў дзіцячых с-г. клюбах лепш пачынаць з восені так, каб загадзя падрыхтаваць дзяцей-клюбнікаў да практычнай с-г. працы вясною і летам.

Дзіцячыя клюбы ставяць сваёй мэтай вывучыць сельскую гаспадарку даволі шырока, але, каб не раскідаць увагу дзяцей, патрэбна ўстанавіць пэўную паступовасьць у працы клюбаў. Дзеля гэтага пры клюбе лепш утварыць сэкцыі па гародніцтву, садоўніцтву, некаторым галінам жывёлагадоўлі і палявой гаспадаркі. У залежнасьці ад мясцовых умоў у клюбе можа быць адна-дзьве або тры сэкцыі. Працу з клюбнікамі найлепш пачынаць з больш простых і даступных для іх галін сельскай гаспадаркі—напрыклад, гародніцтва, садоўніцтва, птушніцтва і г. д.

Заняткам узімку пажадана надаць больш жывы характар. Неабходна, каб дзеці прымалі ў працы найбольшы ўдзел, а не зьяўляліся толькі слухачамі лекцый і дакладаў. Для прыкладу дадаю програму зімовых заняткаў, якая зьвязвае шэраг практычных заняткаў. Пры гэтым кіраўнік клюбу дае дзецям тэорэтычныя тлумачэньні.

### Сэкцыя гародніцтва.

| Практычныя заняткі. | Тэорэтычныя тлумачэньні. |
|---|---|
| 1. Вычэрчваньне пляну гароду пры школе. | Выбар месца пад гарод, яго ахова. Кароткія тлумачэньні аб плодазьмене; будаваньні градак, іх велічыні і разьмеркаваньні; выбар месца для парніка, расадніка і высадак. |
| 2. Схэмы севазваротаў на гародзе (вычэрчваньне). | Чым выклікаецца неабходнасьць плодазьмену; віды севазваротаў; патрэбнасьць угнаеньня пад паасобныя расьліны; іх месца ў севазвароце. |
| 3. Пабудаваньне модэляй і схэматычных чарцяжоў парнікоў і расаднікаў. | Прызначэньне парнікоў і расаднікаў, іх пабудаваньне; матар'ял для набіўкі парнікоў. |
| 4. Азнаямленьне з расьлінамі па насеньню. Зарысоўваньне насеньня і расьлін. | Характарыстыка галоўнейшых расьлін гародніны і іх гаспадарчае значэньне. |

| | |
|---|---|
| 5. Вызначэньне якасьці насеньня па надворных адзнаках. | Пашкоджанасьць насеньня; грыбныя хваробы. Порча насеньня кузуркамі і ў малацьбе. Адзнакі добрай якасьці насеньня. |
| 6. Вылічваньне процантаў усходжасьці і засьмечанасьці насеньня (вопыты). | Значэньне добрага насеньня. Шкода ад сарнін. Галоўныя сарніны і спосабы барацьбы з імі. |
| 7. Прарашчваньне насеньня (вопыты). | Спосабы прарашчваньня; найлепшыя ўмовы прарастаньня; значэньне севу сухім і намочаным насеньнем. |
| 8. Дэманстрацыя ачысткі насеньня. | Азнаямленьне са спосабамі ачысткі насеньня машынамі. |
| 9. Пляценьне саламяных мат для парнікоў і расаднікаў. | Раньні высеў, барацьба з прымаразкамі. |

**Сэкцыя садоўніцтва.**

| | |
|---|---|
| 1. Выбарка насеньня з пладоў. | Спосабы вырабкі насеньня з семячкавых (ачыстка, згнойваньне) і костачкавых пладоў; выхад насеньня і захоўваньне яго; усходжасьць. |
| 2. Вызначэньне якасьці насеньня па надворным выглядзе; падзел на фракцыі (поўныя, шчуплыя, пашкоджаныя і сьмецьце). | Адзнакі здаровага насеньня, віды пашкоджанасьці; значэньне добраякаснага насеньня; значэньне насеньня мясцовых дзікіх пладовых дрэў. |
| 3. Пескаваньне насеньня. | Мэта і прыёмы пескаваньня; ацэнка веснавога і асеньняга высеву насеньня. |
| 4. Зарысоўка пладовых дрэў і іх паасобных частак: корня, галін; пучкі раставыя і цьвяточныя; ліст, кветка, плод. | Роля і значэньне паасобных частак пладовага дрэва ў яго жыцьці. Догляд за дарослым пладовым дрэвам. |
| Вызначэньне парод пладовых дрэў (яблынь, ігруш, вішань, сьліў). | |
| 5. Азнаямленьне з пладамі лепшых сартоў; разрэзы і маляваньне пладоў; азнаямленьне з пладовымі асортымэнтамі па атласах. | Гаспадарчая ацэнка галоўных сартоў яблык, ігруш, сьліў, вішань у ўмовах БССР. |

6. Загатоўка паросткаў дзеля прышчэпліваньня. Азнаямленьне са спосабамі прышчэпліваньня на мёртвых галінах.

Прызнакі добраякасных паросткаў і ўмовы іх захаваньня. Ацэнка асобных спосабаў прышчэпліваньня пладовых дрэў. Спосабы размножаньня ягаднікаў.

7. Вычэрчваньне пляну пладовых выхавальнікаў: сартовы сад, матачна-паросткавы сад; школка дзічак, школка прышчэпаў.

Выбар месца і ахова пладовага выхавальніка. Прызначэньне асобных частак выхавальніка. Адлегласьць паміж пладовымі дрэвамі ў розных частках выхавальніка. Падзел школкі прышчэпаў на вучасткі.

8. Азнаямленьне з садовым інвэнтаром і спосабамі карыстаньня ім.

Прызначэньне асобных інструмантаў.

Праводзячы практычныя заняткі неабходна па магчымасьці ўсе матар'ялы гэтых заняткаў гуртаваць у колекцыі *).

М. Альбіцкі.

# Агропропаганда ў вёсцы.

Пропаганда агрономічных мерапрыемстваў па палепшаньню і падняцьцю сельскай гаспадаркі ў вёсцы, да гэтага часу часта насіла „казённы“ характар; напрыклад, агроном па заданьню павінен быў выпаўніць патрэбны лік лекцый і гутарак. Старанны агроном выпаўняў гэта на ўсе 100 проц. і часта на гэтым агропропаганда канчалася. Рабілася справаздача і адсылалася куды трэба. Але часта лекцыі чыталіся неўпапад і былі далёкімі ад таго напрамку сельскай гаспадаркі, які павінен быць у гэтым раёне. Гэтыя лекцыі мелі навуковы характар; агроном сьведчыў, што ўсё, аб чым ён гутарыць, можа быць карысным.

Па нашаму, агроном памыляўся ў вадным: у глухім раёне насельніцтва да навуковай лекцыі яшчэ не падрыхтавана і такая гутарка агронома дасьць мала сялянскай гаспадарцы. Вось чаму мы лічым патрэбным затрымацца на тым, як працаваць па агропропагандзе ў бягучым годзе.

У гэтай працы, як і ва ўсякай іншай, павінна быць пляновасьць. Гэта знача, што ўсе агрономы павінны праводзіць працу на раёне ў пляновым парадку, у аснову якога павінны быць паложаны мясцовыя экономічныя, глебавыя і інш. ўмовы, а таксама заданьне і плян земаддзелу. Вось на гэтым і трэба будаваць с.-г. пропаганду, у якой можа прымаць удзел сялянская моладзь, дэмобілізаваныя чырвонаармейцы, як перадавы актыў вёскі. Програма павінна быць пабудована так, каб з аднаго боку адказвала напрамку гаспадаркі раёну і з другога—пажаданьням самога сялянства. Таксама ў ёй павінны быць практычныя даныя. Трэба зьвярнуць увагу на экскурсіённыя лекцыі і гутаркі, паказаць сялянам жывы малюнак лепшай скаціны. Летам сялянам можна паказваць паказальныя вучасткі, дзе-б яны бачылі лепшыя расьліны, спосабы вырашчваньня іх і г. д. Лік такіх вучасткаў трэба пашырыць як найбольш.

Таксама да гэтага часу не зьвярталі ўвагі на сялян-культурнікаў. Пара падумаць аб зьезьдзе такіх сялян, а падругое, трэба павялі-

*) Гэту програму могуць выкарыстаць с.-г. гурткі (М. А.).

чваць лік культурных гаспадарак сярод маламоцнай і серадняцкай груп сялянства.

Пры організацыі с.-г. курсаў програму іх таксама трэба будаваць так, каб яна адказвала напрамку сельскай гаспадаркі раёну. У правядзеньні курсаў, апрача свайго вучастковага агронома добра, каб прымалі ўдзел агрономы суседніх вучасткаў. Райагрономы павінны зьвяртаць увагу на земляўпарадкаваныя пасёлкі, якія могуць быць лепшымі прыкладамі ў сельскай гаспадарцы.

Агрономам ня трэба пакідаць і настаўніцтва, якое з маладым пакаленьнем на школьных вучастках можа даваць лепшыя с.-г. прыклады. Нашы колхозы і саўхозы таксама павінны быць уцягнуты ў працу пропаганды.

Кожны год агроном павінен праверыць сваю працу і рабіць вынікі, каб у далейшым правільна падыходзіць да палепшаньня сельскай гаспадаркі.

Там, дзе агроном яшчэ ня ў поўнай меры адмовіўся ад „казённага“ падыходу да працы, трэба як найхутчэй перагледзіць форму працы і адмовіцца ад усяго шкоднага.

Без наладжаньня агропропаганды агроному цяжка рабіць уплыў на кірунак разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў сваім раёне.

І. Ц.

---

## Галоўныя задачы агропропаганды.

Надыходзіць час сыстэматычнай агрономічнай пропаганды. Грамадзкая агрономія зьбірае вакол сябе больш актыўных сялян і знаёміць іх з данымі агрономічнай навукі, прымяненьне якіх у мясцовай сельскай гаспадарцы павінна дапамагаць павышэньню ў ёй продукцыйнасьці.

Цяпер агроном павінен быць патрэбным дзеячом вёскі, а агропропаганда—сродкам для ўплыву агрономіі на мясцовую гаспадарку.

Раней пашырэньне агрономічных вед праводзілася толькі ў агульнай форме, ня лычачыся з мясцовымі асаблівасьцямі сельскай гаспадаркі. Цяпер-жа агропропаганду трэба больш прыблізіць да мясцовых патрэб і згодніць з вынікамі дасьледчых станцый.

Заданьні агропропаганды такія:

1. Неабходна апрача агульных вед агрономічнай навукі скарыстоўваць даныя дасьледчых установ БССР і суседніх дасьледчых станцый. Тое, што дасьледчыя ўстановы БССР працуюць ня доўгі час, ня можа быць прычынай к таму, каб не знаёміць з іх дзейнасьцю.

Сяляне лепей разумеюць вынікі працы дасьледчых станцый бліжэйшага раёну, чым вопыты станцый другіх раёнаў. Дзеля гэтае мэты трэба, каб у бліжэйшыя $1^1/_2$—2 мес. дасьледчыя станцыі агаласілі хоць-бы кароткія справаздачы аб сваіх працах і досьледах.

Асьведамленьне насельніцтва з працай дасьледчых станцый будзе мець важнае значэньне і для дасьледчых установ. Сялянская аўдыторыя заўсёды адкажа, наколькі патрэбен у іх гаспадарцы кожны досьлед станцыі, як яны разыходзяцца ці супадаюць з сялянскім досьледам.

2. Дасьледчыя станцыі БССР яшчэ маладыя і падругое, дзякуючы малым сродкам і невялікаму ліку працаўнікоў, да гэтага часу яшчэ не зрабілі поўнага вывучэньня мясцовых гаспадарак. Вось чаму вельмі патрэбна і станцыям знаёміцца з вопытамі і шуканьнямі ў сельскай гас-

падарцы самых сялян. Было-б вельмі цікава такія думкі сялян запісваць і прысылаць дасьледчай раённай станцыі.

У РСФСР цяпер праводзіцца праца па організацыі сялян-дасьледчыкаў. І нам у першую чаргу прыдзецца ўцягнуць сюды культурных гаспадароў і актыў с.-г. курсаў і конфэрэнцый. Такія сяляне павінны быць намечаны пры правядзеньні курсаў. Таксама пажадана скласьці і сьпіс гаспадароў, якія пажадаюць паставіць у сябе вопыты.

У той час, калі праводзяцца с-г. курсы, сярод слухачоў патрэбна адзначыць найбольш актыўных сялян і далей пацікавіцца, якія мерапрыемствы (аб якіх была гутарка на курсах) імі праведзены ў сваёй гаспадарцы.

Гэта дасьць вельмі цэнны матар'ял для агрономічнай організацыі г. зн. выявіць, што селяніну патрэбна ў першую чаргу.

Спроба такога падыходу і правядзеньне працы сярод сялян у УССР паказала вялікую яе каштоўнасьць.

З свайго боку, аўтар зьвяртаецца з просьбай да агрономічнай організацыі раёна дзейнасьці Турскай дасьледчай станцыі (Бабруйскай, Калінінскай і Магілеўскай акруг) па магчымасьці выпаўніць пераліченыя пажаданьні. Справаздача дасьледчай станцыі за 23—24 г. можа быць выслана па першым запатрабаваньні агропрацаўнікоў. У блізкэйшы час станцыяй будзе выдана справаздача за 24—25 г., якая таксама будзе разаслана агрономічным організацыям.

Б. Бабіцкі.

(Загадчык Турскай дасьледчай станцыі).

---

# Пакінем карміць замежную скаціну макухай.

У Бабруйску ёсьць маслабойны завод „Адзерыхо", дзе выходзіць у месяц каля 15 тыс. пуд. добрай ільнянай макухі. З гэтай кольказьці толькі 3-4 тыс. пуд. купляюць грамадзяне г. Бабруйску і вельмі мала больш перадавыя гаспадаркі. Рэшта-ж макухі прадаецца за межы.

Сяляне Даніі, Нямеччыны, Бэльгіі бачаць карысьць ад кармленьня скаціны макухай і ахвотна купляюць нават прывозную нашу макуху. Загэтым іх сельская гаспадарка мае жывёлаводны ўхіл, г. зн. галоўны прыбытак складаюць продукты жывёлагадоўлі (малако, масла сыр, мяса і інш).

Ня гледзячы на малазямельле, падобнае да нашага, жывёлагадоўля ў названых краінах у шмат раз правышае нашу; напрыклад, у Бэльгіі на адну галаву скаціны прыпадае 0,34 дзес. с-г. плошчы, у Голяндыі—0,32 дзес., у Даніі—0,38 а ў нашай Бабруйскай акрузе 2,8 дзес., ня лічачы лесу і кустоў. Пры гэтым трэба адзначыць вельмі высокую продукцыйнасьць заходня-эўропейскай жывёлагадоўлі, дзе сярэднія ўдоі бываюць заўсёды 350—400 вёдзер, а сярэднія ўражаі каля 180 пуд. з дзес.

Тут паўстае пытаньне: чым-жа дацкі селянін корміць скаціну, каб мець ад яе так многа малака, калі мы ведаем, што свайго корму там не хапае? Кормяць таннай макухай і высеўкамі, якія прадаём мы, як непатрэбныя для нас; макухай і высеўкамі мы папаўняем дацкаму селяніну недастачу ў корме.

У 1913 годзе Расія вывезла гэтых кармоў 753 тыс. пуд. па цане 81 коп. за пуд (усяго на суму 682 мільёны руб.). Калі-ж скарміць гэты корм малочнай скаціне, то мы мелі-б малака каля 2-х мільярдаў пуд. *(пуд макухі дае каля 3-х пуд. малака)*, а гэта дало-б нам таксама разы ў тры больш прыбытку, чым мы маем ад продажу макухі.

Акрамя такой аграмаднай грашовой страты, трэба падлічыць вялікую колькасьць пажыўных матэрый, якія вывозяцца разам з макухай і высеўкамі за межы.

Падлічыўшы ўсе страты ад такога вывазу макухі, высевак, можна сказаць, што за межамі бывае высокі ўраджай і высокія ўдоі малака ў значнай меры ад куплі нашай макухі і высевак.

Скарыстаньне гэтых моцных кармоў магло-б быць добрай падставай для разьвіцьця большай даходнасьці і нашай жывёлагадоўлі.

*Сяляне, купляйце самі макуху, высеўкі і кармеце імі малочных кароў!*

Акруговы агроном **Уліцін.**

---

**Парадзінскія двухтыднёвыя с.-г. курсы.**

Вёска Парадзіна знаходзіцца ў 9 вярст. ад гораду Мсьціслаўля (Калінінская акруга) каля самай рэчкі Сожа. Да рэволюцыі вёска мела каля 250 двароў. Зараз яна расьсялілася на пасёлкі і хутары. Вось у гэтым пункту Мсьціслаўская агрономія і наважыла правесьці 2-х тыднёвыя с.-г. курсы з жывёлаводным ухілам.

Разам з гэтым было праведзена паказальнае кармленьне па нормах з трыма сялянскімі каровамі. Дзьве каровы ад кармленьня іх макухай разам са звычайным кормам павялічылі ўдоі ў 2-3 разы.

Лекцыі чыталіся штодня ад 4 да 9 гадз. вечара (23 лістапада—7 сьнежня). У час лекцый агрономы карысталіся сьветавым фанаром.

На курсы запісаліся ўсяго 30 чалавек, а лік слухачоў быў ад 10 да 70 асоб.

Такую плывучасьць слухачоў можна тлумачыць тым, што курсы былі організаваны ў $^1/_2$ вярст. ад вёскі. Падругое-ж, якраз у гэты час здарылася дрэнная пагода і той, каму было далёка да школы (тут праводзіліся курсы), хадзіў ня кожны дзень. Па нядзелям слухачы амаль зусім ня прыходзілі, бо сяляне ў гэты дзень езьдзілі на кірмаш.

Ня гледзячы на ўсе няспрыяючыя ўмовы, курсы ўсё-ж такі ўскалыхнулі сялян вёскі Парадзіна, Лешчынка і бліжэйшых хутароў. У далейшым курсы трэба праводзіць бліжэй да вёскі і ў цёплым памяшчэньні. Таксама тэрмін курсаў патрэбна працягваць больш 2 тыдняў.

К канцу курсаў усіх найбольш актыўных і цікавячыхся сельскай гаспадаркай сялян, патрэбна з'організаваць у с.-г. гурток, праз які ў далейшым і праводзіць усе палепшаньні сельскай гаспадаркі.

**Л. Калер.**

---



# Крэдытовы плян Белсельбанку на другую чвэрць 25-26 г.

У другой чвэрці гаспадарчага году (студзень—сакавік) сялянская гаспадарка вядзе падрыхтоўку да новых вытворчых процэсаў. Гэты-ж час зьяўляецца таксама падрыхтоўчым часам дзеля Наркамзема, цэнтральных коопэрацыйных організацый (Белсельсаюз, Цэнтраземсклад) і інш.

У зьвязку з гэтым Белсельбанк свой крэдытовы плян на гэтую чвэрць вызначыў у суме 3 мільёнаў 598,8 тыс. руб. З гэтае сумы 43 проц. пойдзе на доўгатэрміновы крэдыт па разьвіцьцю і адбудове сялянскай гаспадаркі. Гэтая сума доўгатэрміновага крэдыту будзе разьмеркавана так:

| | |
|---|---|
| 1. Асноўныя капіталы сялянскай гаспадаркі | 1 міл. 52 т. р. |
| 2. Крэдытаваньне вытворча-збытавой дзейнасьці гаспадарак . . . . . . . . | 278 „ „ |
| 3. С.-г. прамысловасьць . . . . . . . . | 90 „ „ |
| 4. Асноўны капітал крэдытовай с.-г. коопэрацыі . . . . . . . . . . . | 100 „ „ |
| УСЯГО . . . . . . . | 1 „ 550 „ „ |

Кароткатэрміновы крэдыт у большасьці будзе выдавацца на тыя-ж мэты, з тэю толькі розьніцаю, што кароткатэрміновы крэдыт будзе выдавацца, напрыклад, селяніну-серадняку, а доўгатэрміновы—маламоцнаму сялянству.

Як будзе скарыстаны крэдыт у самой гаспадарцы, паказваю ў табліцы.

| На што даецца крэдыт | Сума ў тысячах рублёў | | |
|---|---|---|---|
| | Доўгатэрміновы | Кароткатэрміновы | Усяго |
| 1. С.-г. машыны і прылады, гаспадарчая будоўля . . . . . . . | 761 | 540 | 1.301 |
| 2. Земляўпарадкаваньне і мэліорацыя | 266 | 14 | 280 |
| 3. Мінэральныя ўгнаеньні . . . | 25 | 75 | 100 |
| 4. Палявая гаспадарка . . . | 115 | 345 | 460 |
| 5. Жывёлагадоўля . . . . | 163 | 216 | 379 |
| 6. С.-г. прамысловасьць . . . | 90 | 208 | 298 |
| 7. Саматужная прамысловасьць . . | 30 | 100,8 | 130.8 |
| 8. Пазыкі крэдытовым таварыствам на асноўны капітал . . . . . | 100 | — | 100 |
| 9. Запасныя сродкі Белсельбанку . . | — | 400 | 400 |
| 10. Іншыя . . . . . . | — | 150 | 150 |
| УСЯГО . . . . . . | 1.550 | 2.048,8 | 3.598,8 |

Пры разьмеркаваньні гэтых сродкаў па акругам бралася пад увагу патрэба кожнай акругі ў крэдыце дзеля адбудовы сельскай гаспадаркі. Гэта разьмеркаваньне мае такі выгляд:

| | | |
|---|---|---|
| Менскай акрузе . . . . . | 293 | тыс. руб. |
| Барысаўскай акрузе . . . . | 270 | „ „ |
| Слуцкай „ . . . . | 275 | „ „ |
| Бабруйскай „ . . . . | 324 | „ „ |
| Мазырскай „ . . . . | 286 | „ „ |
| Магілеўскай „ . . . . | 321 | „ „ |
| Аршанскай „ . . . . | 276 | „ „ |
| Калінінскай „ . . . . | 259,8 | „ „ |
| Віцебскай „ . . . . | 350 | „ „ |
| Полацкай „ . . . . | 249 | „ „ |
| УСЯГО . . . 2 м. | 903,8 | „ „ |

Па ўстановах і організацыях крэдыт будзе разьмеркаваны так:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Нізавой крэдытовай коопэрацыі . . | 1 м. 859,9 | тыс. руб. |
| 2. С.-г. таварыствам . . . . . . . | 35 | „ „ |
| 3. Комунам і колхозам . . . . . . | 280 | „ „ |
| 4. Спэцыяльным с.-г. коопэратывам. . | 212,5 | „ „ |
| 5. Саматужна-прамысловай коопэрацыі | 81 | „ „ |
| 6. Зямельным аб'яднаньням па вырабу зямлі . . . . . . . . . . . | 7 | „ „ |
| 7. С.-г. прамысловым і крэдытовым саюзам . . . . . . . . . . . | 455 | „ „ |
| 8. Саюзам спажывецкай коопэрацыі. . | 100 | „ „ |
| 9. Сялянскім комітэтам узаемадапамогі | 34 | „ „ |
| 10. Саўхозам . . . . . . . . . . . | 90 | „ „ |
| 11. Дзяржаўным організацыям . . . . | 445 | „ „ |
| УСЯГО . . . . . 3 м. | 598,8 | „ „ |

З усяго крэдыту найбольш сродкаў пойдзе:

| | | |
|---|---|---|
| на куплю рабочай жывёлы . . . . | 550 | тыс. руб. |
| „ „ насеньня . . . . . . . | 395 | „ „ |
| „ земляўпарадкаваньне . . . . . | 216 | „ „ |
| „ жывёлагадоўлю . . . . . . . . | 379 | „ „ |

Як бачым, што ў другой чвэрці г. г. галоўная частка крэдыту накіроўваецца дзеля ўзмацненьня асноўных капіталаў сялянскай гаспадаркі *(рабочы скот, машыны, с.-г. будоўля* і г. д.); прычым, тэрмінам гэты крэдыт працягваецца да 5 год, а кароткатэрміновы—да 1 году. Усё гэта дае магчымасьць маламоцнаму сялянству пачаць сталую адбудову сваёй гаспадаркі.

**М. Перальман.**

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Продаж лесу.

Да гэтага часу ў нас лес прадаецца дзялянкамі і паасобнымі дрэвамі. Такі спосаб продажу лесу вельмі нявыгадны для лясной гаспадаркі і шмат у чым нязручны на практыцы.

Калі мы параўнаем гэты спосаб продажу драўніны з продажам розных продуктаў сельскай гаспадаркі ў саўхозе ці ў другой якой-небудзь здабываючай прамысловасьці, то ўгледзім, што ні каменны вугаль у шахтах, ні хлебныя расьліны на палёх і ніякія іншыя продукты не прадаюцца раней свайго вырабу, росту ці здабываньня. Усякі гаспадар спачатку сажне жыта, абмалоціць і тады ўжо прадае яго зярном. У лясной-жа гаспадарцы, наадварот, гэты спосаб ужываецца. Але зусім іншая будзе справа, калі лясьніцтва само будзе распрацоўваць усю гадавую лесасеку гаспадарскім спосабам і дастаўляць матар'ялы для продажу на склады, прыстані сплаўныя рэчкі і інш. Толькі тады лясьнічы стане гаспадаром у лесе, і такая праца будзе продукцыйна для гаспадаркі і ня шкодна для лесу.

Прыгатаваная такім шляхам драўніна будзе каштаваць даражэй, але замест гэтага насельніцтва будзе мець заробкі пры лясных расрацоўках. Для таго-ж, каб лясныя матар'ялы былі дзешавей, склады можна будаваць не абавязкова ў горадзе, а ў вёсцы і ў лесе, пры кватэрах лясных служачых і варты, пры сельсаветах і інш. Разам з гэтым, трэба пашырыць і продаж лесу ў крэдыт.

Новы парадак продажу лесу дасьць шмат выгад.

1) Зьмена спосабаў продажу лесу зробіць лес недаступным для тых грамадзян, якія не зацікаўлены ў падтрыманьні правільнай лясной гаспадаркі.

2) Лясная варта будзе мець больш часу займацца гаспадарчаю працай у лесе затым, што ня будзе патрэбы далей наглядаць за кожным грамадзянінам, які купіў сабе пень ці другі матар'ял.

3) Дасьць лясьнічаму магчымасьць шырэй разгарнуць у лесе сваю гаспадарчую дзейнасьць.

4) Павялічыць лясныя даходы рэспублікі.

У зьвязку з такім спосабам продажу лесу неабходна зьвярнуць увагу на разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці, якая грунтуецца на вельмі цэнным скарыстаньні драўніны. Для гаспадаркі гэта прамысловасьць мае вялікае значэньне: сяляне скарыстоўваюць на свае вырабы розную драўніну і тым даюць магчымасьць лясной гаспадарцы скарыстаць усе матар'ялы, якія бываюць пры гаспадарчай распрацоўцы лесу.

Што датычыцца ільгот пры продажу драўніны, то гэта патрэбна-б было скарачаць. Лепш маламоцнаму сялянству замест ільготнага продажу драўніны даваць доўгатэрміновы крэдыт [1]).

**В Жаданоўскі.**

---

[1]) Кіраўніцтва лясамі НКЗ мае на мэце ў 1925-26 г. адчыніць 30 складаў для продажу лясных матар'ялаў, у зьвязку з гаспадарчай распрацоўкай лесу лясьніцтвамі. Зараз ёсьць толькі тры склады (Слуцак, Капыль, Урэчча). *Рэд.*

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Захваты зямлі.

Абсьледваньне працы зямельных комісій Мазырскай і Бабруйскай акруг выявіла ў іх шмат спраў аб самавольных захватах зямлі. Часьцей усяго захватваецца зямля грамадзянамі адзін у другога; затым ідуць захваты ў лясьніцтвах, а менш усяго ў саўхозах. У гэтых двух акругах амаль палова ўсіх спраў, якія вырашаюцца зямельнымі комісіямі, прыпадае на захваты. У другіх акругах іх каля 15 проц.

Прычыны гэтага—з аднаго боку блытаніна зямельных адносін, церазпалосіца сялянскіх угодзьдзяў і раскіданасьць іх па лесу і з другога—амаль поўная бязкарнасьць захватаў, бо ў гэтых справах не заўсёды маюцца адзнакі самаўпраўства. Па справам-жа, якія вырашае зямельная комісія ў агульным парадку, паміж часам захвату і рашэньнем зямельнай комісіі праходзіць каля году. У гэты час захватчык бязкарна карыстаецца зямлёю суседа,

Артыкул 25 і ўвага 3 да арт. 199 Зямельнага Кодэксу накладвае на зямельныя комісіі абавязак у выпадку нарушэньня землякарыстаньня зараз-жа вярнуць зямлю назад, ня ўздымаючы пытаньня аб праве старон на спрэчную зямлю.

Зямельны Кодэкс дае зямлю грамадзянам у сталае працоўнае карыстаньне і захоўвае яе за імі. Зямля можа быць адабрана ад грамадзяніна толькі на аснове рашэньня зямельнай комісіі, у выпадках, прадугледжаных законам. Калі грамадзянін думае, што ён мае права на зямлю ці гаспадарку, якая знаходзіцца ў чужым карыстаньні, ён не павінен захватваць гэтай маемасьці, а можа прад'явіць аб ёй іск у мясцовую зямельную комісію.

Калі-ж такі захват будзе—напрыклад, хто-небудзь пераставіць плот за межы свайго быўшага карыстаньня, пачне ставіць будынак на зямлі, якая ўваходзіць у чужую сядзібіну, заарэ поле, якім раней не карыстаўся, выкасіць чыю-небудзь сенажаць, зачыніць дарогу, якая праходзіла па яго зямлі ці, наогул, учыніць якое-небудзь умяшацельства ў чужую гаспадарку, пацярпеўшы ад такога захвату можа зараз-жа зьвярнуцца ў мясцовы сельсавет з просьбай аб устанаўленьні факта захвата і ацэнцы ўбыткаў.

Атрымаўшы заяву аб захваце зямлі, старшыня ці сябра сельсавету павінен не пазьней 7 дзён высьвятліць справу на месцы і ў прысутнасьці двух панятых злажыць аб гэтым пратакол і выдаць яго на рукі заявіцелю. У пратаколе гэтым паказваецца, хто карыстаўся зямлёй ці гаспадаркай да захвату, на якой плошчы і кім зроблены захват, у чым ён вызначаецца і колькі зроблена ім убытку заявіцелю.

Ацэнка ўбыткаў павінна быць дасканальна вылічана, напрыклад, паказваецца кошт уложаных у зямлю і нескарыстаных, дзякуючы за-

хвату ўгнаеньняў, насеньня і працы, колькасьць і кошт пасеваў ці травы, зьніштожаных ці зааранных пры захваце, а таксама вызначаецца колькасьць і кошт насеньня, якое высеяна захватчыкам пры перарабцы поля.

Атрымаўшы пратакол, пацярпеўшы падае яго не пазьней месячнага тэрміну ад дню захвата ў раённую зямельную комісію пры заяве, у якой выкладаецца просьба аб устанаўленьні нарушанага землякарыстаньня ці гаспадаркі і аб нанесеных стратах.

Заява гэта аплачваецца рублёваю мытай. Калі просьба аб устанаўленьні нарушанага землякарыстаньня падана ў раённую зямельную комісію пазьней, як праз месяц ад дню захвата, то справа разглядаецца ў агульным парадку з выкліканьнем старон і сьведак.

У той-жа месячны тэрмін пацярпеўшы ад захвата можа і без сельсавету зьвярнуцца ў раённую зямельную комісію з просьбай аб устанаўленьні парушанага землякарыстаньня шляхам простага вырашэньня прыводзячы з сабой сьведак і ацэншчыкаў. Пацярпеўшы, сьведкі і панятыя дапрашваюцца старшынёю ці сябрам раённай зямельнай комісіі з прыняцьцем заявы. Паказаньні іх запісваюцца ў пратакол, які перадаецца на разгляд бліжэйшага судовага паседжаньня зямельнае комісіі.

Такі больш просты парадак вырашэньня зямельных захватаў складаецца ў тым, што зямельная комісія, упэўніўшыся, што з часу захвата да паданьня заявы ў зямельную комісію не прашло месяца, разглядае справу бяз выкліканьня старон. Але зьявіўшыяся стораны могуць даваць свае паказаньні. Абсудзіўшы пратакол і прызнаўшы іск даведзеным, зямельная комісія выносіць пастанову аб устанаўленьні нарушанага землякарыстаньня на тэй плошчы і аб спагнаньні з захватчыка па ацэнцы ўбыткаў у такім-жа разьмеры, а таксама спаганяюцца і ўсе судовыя страты пацярпеўшага.

У справах аб захваце зямлі бывае і так, што селянін заарэ сваю зямлю і засее яе, а сусед пераарэ і зноў засее. У гэтым выпадку зямельная комісія, замест прысуду убыткаў, можа, вяртаючы зямлю, перадаць яму і пасевы захватчыка. Таксама ў выпадку перакосу сенажаці, зямельная комісія замест прысуду ўбыткаў дазваляе пацярпеўшаму забраць скошанае сена. Калі-ж зямельная комісія знойдзе нявернай паказаную ў пратаколе ацэнку ўбыткаў, яна ўстанаўляе нарушанае землякарыстаньне, а выплату ўбыткаў пакідае неразгледжанай.

Такое вырашэньне зямельнай комісіі аб нарушаным землякарыстаньні ці гаспадарцы не перашкаджае прад'явіць у тую-ж комісію іск у агульным парадку аб самым праве на спрэчную зямлю ці гаспадарку.

Па гэтаму іску выклікаюцца стораны і сьведкі. Пацярпеўшы ад захвата можа і ў народным судзе прад'явіць іск аб убытках, калі разшэньня аб іх яшчэ ня было. Таксама пацярпеўшы можа падаць у суд на захватчыка за самаўпраўства. Такая жалаба зьяўляецца адзіным выхадам, калі і пасьля рашэньня зямельнай комісіі аб прысудзе спрэчнай зямлі адказчык захватвае яе.

Пастанова раённай зямельнай комісіі аб устанаўленьні нарушанага землякарыстаньня ці гаспадаркі і спагнаньні ўбыткаў, перасылаецца ў сельсавет дзеля безадкладнага выкананьня.

Падача жалабы на гэту пастанову ня спыняе яе выкананьня. Пастанова гэта можа быць абжалавана ў акруговую зямельную комісію ў тэрмін аднаго тыдню ад таго дню, як яна стала вядомай жалабшчыку.

Акруговая комісія, атрымаўшы жалабу на пастанову раённай комісіі аб захваце зямлі, хоць і выклікае стораны, але спраўджвае толькі ці ня былі нарушаны правілы, якіх патрэбна трымацца пры разглядзе падобных спраў.

Акруговая комісія па жалабе захватчыка адмяняе пастанову раённай зямельнай комісіі і зьвяртае ёй справу для разгляду ў агульным парадку, калі бачыць, што раённая комісія здаволіла іск, які быў прад'яўлены пасьля месячнага тэрміну ад дня захвата, або на падставе галаслоўнай заявы без пратаколу. У другіх выпадках паданая жалаба ня прымаеццца пад увагу, але захватчык пасьля гэтага можа прад'явіць у раённай зямельнай комісіі ў агульным парадку іск аб прысудзе яму спрэчнай зямлі.

Такі парадак разгляду спраў аб устанаўленьні нарушанага землякарыстаньня і гаспадаркі, прымяняецца толькі ў раённых зямельных комісіях.

Справы аб захватах зямлі, у якіх старанамі зьяўляюцца дзяржаўныя ці грамадзкія ўстановы, савецкія ці колектыўныя гаспадаркі, разглядаюцца ў першую чаргу акруговымі зямельнымі комісіямі ў агульным парадку з выкліканьнем старон і спраўджваньнем іх паказаньняў.

**Я. Вішнеўскі.**

---

## Пытаньні і адказы.

*(Па зямельных справах).*

ПЫТАНЬНЕ 21. Ці мае права член сялянскага двара выйці з яго складу. Як гэта робіцца і якія вынікі гэтага выхаду ў адносінах праў на маемасьць і зямлю? *(Студэнт с-г. Акадэміі Іван Канец).*

АДКАЗ. Поўнапраўны член сялянскага двара мае права выйці з яго складу. Пры выхадзе ён падлягае выключэньню з падворнага сьпісу. Калі сельсавет па заяве члена двара адмовіцца зрабіць адпаведны надпіс у сьпісе, то член, выходзячы са складу двара, можа падаць жалабу ў раённую зямельную комісію. Член двара, вышаўшы з яго складу, траціць права на зямлю двара і другую маемасьць агульнага карыстаньня, а таксама перастае быць членам зямельнага аб'яднаньня, да якога належыць яго быўшы двор.

ПЫТАНЬНЕ 22. Ці можа ўтрымаць за сабою зямлю і будынкі адзінокі чалавек, які жыў асобным гаспадаром, у выпадку ўходу гэтага чалавека ў прымы ў другі двор? (*Мазырская акруговая зямельная комісія*).

АДКАЗ Можа ўтрымаць, бо аб'яднаньне двароў не забараняецца законам. Але калі ў выніку такога аб'яднаньня будзе вялікая гаспадарка, то яна падлягае абрэзцы па 96 арт. Зям. Код.

ПЫТАНЬНЕ 23. У якім парадку трэба рабіць надзяленьне зямлёю паасобных грамадзян пры адсутнасьці распарадзіцельных паседжаньняў раённых зямельных комісій? (*Менская Акрземкомісія.*)

АДКАЗ. Зямельныя органы надзяляюць грамадзян зямлёю шляхам земляўпарадкаваньня, калі-ж бывае надзяленьне зямлёю асобнага землякарыстацеля, то проэкт надзяленьня складаецца старшынёю сельсавету, прад'яўляецца зямельнаму аб'яднаньню і зацікаўленым асобам.

Далей праз 2 тыдні з усімі паступіўшымі жалабамі ён падаецца ў раённую зямельную комісію на разгляд у адкрытым паседжаньні з выкліканьнем старон. Калі на пастанову раённай зямельнай комісіі жалаб ня будзе, то яна зацьвярджаецца акруговай комісіяй у распарадзіцельным паседжаньні.

# Мэліорацыя на Мазыршчыне ў 1925 г.

У гэтым годзе Беларускі ўрад пашырыў мэліорацыйныя працы ў рэспубліцы, у тым ліку і на Мазыршчыне.

Мазыршчына па сваім глебавым і кліматычным умовам адрозьніваецца ад другіх акруг Беларусі. На 43 проц. яе паверхня забалочана, а на 12 проц. пад пяскамі; знача, 55 проц. плошчы зямлі патрабуе грунтоўнага палепшаньня, ня кажучы ўжо аб апошніх добрых землях, як іх завуць памясцоваму, якія на ўсе 100 проц. таксама патрабуюць с-г. палепшаньняў.

Лясістасьць, забалочанасьць, дрэнныя шляхі зносін, вялікая адлегласьць ад экономічных цэнтраў, кажуць нам аб некаторай асаблівасьці быту сялян.

Асушэньне балот, замацаваньне пяскоў, павінны стварыць для сельскай гаспадаркі лепшыя ўмовы разьвіцьця яе таварнасьці і паслабленьня зямельнай цеснаты. Аб гэтым нам сьведчаць тыя працы, якія зроблены ў гэтым годзе, галоўным чынам, за сродкі дзяржавы па рамонту магістральных каналаў—Найда-Бялеўскага ў Жыткавіцкім раёне, Прыбалавіцкага і Нерасьнянскага—у Лельчыцкім.

Першы канал капаны яшчэ ў 70 гадох мінулага стагодзьдзя; ён упадае ў раку Прыпяць і дзякуючы яму асушана 50.000 дзес. балота (у раёне возера „Князь"). Канал гэты сёлета правілі і ачышчалі на працягу 12 вёрст. Калі пачалі рамонт, то мясцовае насельніцтва ахвотна ўзялося за мэліорацыйную працу на сваёй зямлі, якая знаходзілася каля каналу. Вынікам гэтага ёсьць організацыя 4 мэліорацыйных таварыстваў на плошчы 1.200 дзес. з 725 сябрамі. Таварыствамі ўжо зроблена праца па складаньні проэкту асушэньня і карчаваньня.

Другія каналы праходзяць праз вялікія лясы на працягу 10 вёрст да рэчкі Уборці (прытоку Прыпяці). Па іх сплаўляюць лес і ў іх-жа спускаюць ваду з балот абшарам у 20.000 дзес. У гэтым годзе зрабілі рамонт гэтым каналам на працягу 20 вёрст (каштаваў 28.000 руб.). Бліжэйшае насельніцтва прымала ўдзел у гэтай працы, каб палепшыць свае землі. Тут былі організаваны 3 мэліорацыйных таварыствы на плошчы 1000 дзес. з 50 сябрамі. Гэтыя таварыствы ўжо пачалі працаваць. Але гэта праца яшчэ не праводзіцца на тых вялікіх балотах у раёне памянёных 3 каналаў, якія патрабуюць мэліорацыйных палепшаньняў. Знача, заданьні зямельных органаў, мэліоратараў і агрономаў зацікавіць насельніцтва ў гэтай працы і паказаць на практыцы, што гэтым можна палепшыць сваю дрэнную зямлю і гаспадарку. Гэта праца павінна праводзіцца ня толькі ў азначаных раёнах, але і па ўсёй акрузе.

Зробленая мэліорацыйная праца на Мазыршчыне ў гэтым годзе паказала, што сяляне таксама праводзяць мэліорацыю на сваіх землях, дзякуючы дзяржаўнай паказальнай мэліорацыі, якую трэба пашырыць асабліва на Мазыршчыне. Тады мы можам сказаць, што з пашырэньнем дзяржаўнай мэліорацыі будзе пашырацца і мясцовая мэліорацыя, якая дасьць магчымасьць асушыць Мазырскія балоты.

І. Ц.

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Вадзяныя ўжыткі Беларусі.

Па плошчы водаў Беларусь займае першае месца ў паўночна-заходняй частцы СССР і мае лепшыя ўмовы для разьвіцьця рыбнае гаспадаркі.

Па падліку, зробленаму Наркамземам, у Беларусі налічваецца 1827 азёр з плошчаю 54.735 дзес. і 30.273 вяр. рознай глыбіні і шырыні рэк і рэчак з прытокамі.

Па акругам гэтыя вадаёмы разьмяркоўваюцца так:

| Акругі | Азёры | | Рэкі |
|---|---|---|---|
| | Лік | Плошча ў дзес. | Даўжыня ў в. |
| Полацкая . . | 566 | 26.574 | 2.714 |
| Віцебская . . | 374 | 18.663 | 3.422 |
| Барысаўская . | 256 | 10.271 | 5.720 |
| Мазырская . | 352 | 5.839 | 2.726 |
| Аршанская . | 37 | 860 | 2.650 |
| Перанос . | 1.585 | 62.207 | 17.232 |
| Перанос . | 1.585 | 62.207 | 17.232 |
| Менская . . | 47 | 636 | 2.524 |
| Бабруйская . | 94 | 631 | 2.908 |
| Магілеўская . | 92 | 548 | 3.488 |
| Калінінская . | 3 | 540 | 2.854 |
| Слуцкая . . | 6 | 173 | 1.267 |
| Усяго . | 1.827 | 64.735 | 30.273 |

Па займаемай плошчы, азёры Беларусі дзеляцца на такія групы:

| Групы | Плошча ў дзес. | Лік | Плошча ў дзесяц. |
|---|---|---|---|
| 1 | Да 1 дзес. | 429 | 217 |
| 2 | 1— 10 | 890 | 4.124 |
| 3 | 10— 50 | 322 | 7.574 |
| 4 | 50— 100 | 82 | 5.859 |
| 5 | 100— 300 | 66 | 12.110 |
| 6 | 300— 500 | 19 | 7.182 |
| 7 | 500—1000 | 10 | 7.089 |
| 8 | Звыша 1000 | 9 | 20.580 |

Цяпер ловяць рыбу толькі на азёрах, плошчаю больш 1 дзес. і вялікіх рэках (Заходняя Дзьвіна, Дняпро, Бярэзіна, Прыпяць, Пціч і Случ).

Найбольш цэннымі для рыбнай гаспадаркі і прамысловасьці зьяўляюцца рэкі Прыпяць, Бярэзіна і азёры 7 і 8 групаў.[1])

Гадавы ўлоў на гэтых вадаёмах складае каля 50 тыс. пуд., а гадавая даходнасьць каля 60 тыс. руб.

Даныя навукова-прамысловых экспэдыцый усе азёры Беларусі па іх умовах для жыцьця рыбы дзеляць на тры тыпы.

1. Глыбакаводныя азёры (больш 10 мэтраў) з халоднай чыстай і багатай кіслародам вадой, з высокімі берагамі, крутымі падводнымі схіламі, з няроўным і мала заглееным дном, якое мае цьвёрдую пескавую глебу, з цьвёрдымі ўзвышшамі, з расьліннасьцю толькі каля берагоў; з невялікімі адзнакамі забалочваньня, з вялікім запасам корму. Гэта азёр, якія ствараюць найлепшыя ўмовы для жыцьця і росту рыб.

2. Азёры сярэдняй глыбіні (ад 4 да 10 мэтр.) больш забалочаны і заглеены але ўсё-ж у іх больш цьвёрдага дна з ямамі і падводнымі буграмі. Яны маюць прыбрэжную, а часам і па дну багатую расьліннасьць. Розную цяплыню вады, з сярэднім запасам корму.

3. Азёры мелкаводныя, глыбінёю да 4-х мэтр., з нізкімі, моцна забалочанымі і заглеенымі берагамі, с глеістым дном і багатым разьвіцьцём расьлін. Награваюцца такія азёры аднолькава ва ўсёй тоўшчы вады, маюць мала кіслароду, бедныя на корм. Яны мала прыгодны для разьвядзеньня рыбы.

Апрача такіх вадаёмаў у Беларусі ёсьць шмат выкапанных сажалак для розных мэтаў. Да рэволюцыі рыбная гаспадарка вялася на 127 сажалках, плошча якіх складае 1417 дзес. Цяпер яна аднаўляецца на 99 сажалках, плошчаю 1339 дзес.

Лік такіх вадаёмаў можна яшчэ павялічыць, бо прырода Беларусі спрыяе гэтаму: на яе абшарах амаль усюды сустракаюцца вялікія балоты і нізіны, па якіх у розных напрамках працякаюць рэчкі і пракопаны каналы, якія злучаюцца з вялікімі рэкамі і азёрамі. Дзякуючы гарыстай паверхні і блізасьці грунтовых вод, выкапваць тут сажалкі ня цяжка.

Разьвіцьцю рыбнай гаспадаркі Беларусі спрыяе вільготны і большменш цёплы клімат. Усе гэтыя ўмовы даюць магчымасьць весьці рыбную гаспадарку па самых розных формах. Даходнасьць рыбнай гаспадаркі на сажалках можна падлічваць так: прамысловыя сажалкі даюць каля 160 кілёгр. рыб'яга мяса з дзес., што складае 64 руб. па сучасных цэнах.

**П. Тарасаў.**

---



[1]) Князь ці Жыд—452 дзес., Асьвея—4200, Лукамль—3000, Няшчэдра—2639, Лісна—1573, Езярышча—1350, Чарствяты—1127, Лосьніда—1076, Цётча—887, Янова-Паульле—883, Адталава—837, Палувозера—750, Лепельскае—725, Вымна—694, Саляўнае і Задцы—672, Пелік—625, Сарра—600, Бярэзаўскае—567 дзес.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Палажэньне аб сельска-гаспадарчых гуртках.

Вялікае жаданьне сялянства да атрыманьня патрэбных агранамічных вед, якое выяўляецца ў імкненьні сялян палепшыць сваю гаспадарку і падняць яе каштоўнасьць, павысіць вытворчасьць сваёй працы і г. д., ставіць перад нардомам і хатай-чытальняй заданьне зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьвіцьцё агрaпрапаганды на вёсцы.

Першапачатковаю формаю агрaпрапаганды сярод сялянства зьяўляецца сельска-гаспадарчы гурток. Галоўным застрэльшчыкам арганізацыі гурткоў зьяўляецца актыў сялянскай моладзі, сябры ячэек ЛКСМ. Пры арганізацыі гуртка неабходна кіравацца наступным:

**а) Мэтоды і задачы гуртка.**

1. Сельска-гаспадарчы гурток мае мэтаю распаўсюджваньне паміж сваімі сябрамі тэорэтычных і практычных сельска-гаспадарчых вед для палепшаньня розных галін сельскае гаспадаркі (паляводзтва, гародніцтва, садоўніцтва, птушніцтва, гадоўлі жывёлы і г. д.) і азнаямленьне з асновамі с-г. палітыкі Савецкай улады (Зямельны кодэкс, коопэраваньне, с-г. крэдыт, электрыфікацыя і г. д.).

**б) Склад гуртка.**

2. Сябрамі гуртка могуць быць усе мужчыны і жанчыны, пры гэтым у гурток прымаюцца партыйцы і комсамольцы, батрацкая, бядняцкая і серадняцкая актыўная моладзь, тыя сяляне з беднякоў, якія зацікаўлены агракультурнымі мерапрыемствамі ў сваёй гаспадарцы.

**в) Арганізацыя гуртка.**

3. Усе сельска-гаспадарчыя гурткі (незалежна ад таго, у якой арганізацыі ці ўстанове яны ствараюцца) у сваёй працы падлеглы кіраўніцтву Саветаў хат-чытальняў, Райпалітасьветкомам. Усе гурткі ў раёне павінны зарэгістравацца ў Саветах хат-чытальняў і зацьвярджацца Райполітасьветкомамі.

4. Гурткі арганізоўваюцца пры хатах-чытальнях (нардамох, чырвоных кутках); там, дзе іх няма, пры ячэйках ЛКСМБ. Ва ўсе гурткі маюць права ўступаць у якасьці сяброў асобы згодна параграфу 2-му.

5. Гурток зьяўляецца стала чыннай арганізацыяй; у гуртках могуць быць арганізаваны сэкцыі, калі ў гуртку набярэцца некалькі груп, жадаючых вывучаць асобныя галіны сельскае гаспадаркі. Гурткі ў працы павінны прыстасоўвацца к мясцовым умовам жыцьця тэй мясцовасці, дзе яны існуюць.

6. Для арганізаці кіраўніцтва гуртком Райпалітасьветком выдзяляе тройку ў складзе: 1) *ваённага агранома*, на якога ўскладаецца

кіраўніцтва агрономічнымі заняткамі гуртка; 2) *прадстаўніка ад Райкому ЛКСМБ*: 3) *прадстаўніка Райпалітасьветкому* (загадчыка хаты-чытальні альбо нардому).

7) Запіс у сябры гуртка выключна добраахвотны.

8) Кожны сябар гуртка павінен унасіць узносы ў невялікай суме, якая будзе вызначана агульным сходам гуртка. Гэтыя сродкі трацяцца на выпіску с.-г. літаратуры. Сродкі складаюцца з пастановак спэктакляў, лекцый і г. д.

**г) Абавязкі сябра гуртка.**

9) Кожны сябар гуртка абавязуецца акуратна наведваць заняткі і сходы гуртка. Заняткі адбываюцца ня менш аднаго разу ў тыдзень, а агульныя сходы адзін раз у месяц.

**д) Вучот працы.**

10) Загадчык хаты-чытальні (нардому, чырвонага кутка і прадстаўнік ад ячэйкі ЛКСМБ) калі пры іх існуе гурток, вядзе вучот і запісвае сяброў гуртка, дзеньнік яго працы і пасылае штомесячна справаздачу гуртка ў Райпалітасьветком. Справаздачы правяраюцца тройкай, узгодніваюцца і на падставе іх складаецца агульная справаздача, якая пасылаецца ў Акруговы Палітасьветы Акружком ЛКСМБ і акруговым Земаддзелам.

Акруговыя Палітасьветы і Акружком ЛКСМБ даюць падрабязговыя весткі аб працы сельска-гаспадарчых гурткоў у Галоўпалітасьветы і ЦК ЛКСМБ. Адказнасьць за прадстаўленьне справаздач у паказаныя Акруговыя ўстановы і Акружком ЛКСМБ, нясе Райпалітасьветком і Райком ЛКСМБ. Старшыня Галоўпалітасьветы (Бялуга) Адказны Сакратар ЦК ЛКСМБ (Зімін) Сакратар Галоўпалітасьветы (Бабкоў)

---

*Цыркуляр № 134.*

## Народнага Камісарыяту Асьветы і Земляробства і Цэнтральнага Комітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

*Акружкомам ЛКСМБ і Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы і Земляробства.*

*Аб кіраўніцтве працай сельска-гаспадарчых гурткоў.*

*Менск, 26 сьнежня 1925 г.*

Вучот с.-г. гурткоў у раёнах і практыка іх працы паказваюць, што жыцьцёвымі зьяўляюцца гурткі мешанага тыпу, якія складаюцца з пажылых сялян, сялянскай актыўнай моладзі, сяброў ячэек ЛКСМБ, жаночага актыву і г. д. Такім чынам патрэбна на далейшы час узяць курс на організацыю с.-г. гурткоў мешанага тыпу. Але справа ў тым, што ня высьветлена пытаньне аб кіраўніцтве працаю гурткоў у акругах. Па палажэньню аб організацыі гурткоў у раёне працаю кіруе Райпалітасьветком (яго тройка, якая спэцыяльна выдзелена Райпалітасьветкомам дзеля кіраваньня працаю с.-г. гурткоў).

У акругах гэта кіраўніцтва знаходзілася паасобку ў Акружкоме ЛКСМБ і Акрпалітасьветах, ніякай сувязі ў іх працы ня было і гэта вельмі дрэнна адбівалася на агульнай працы гурткоў на вёсцы.

У сувязі з тым, што ўстаноўка бярэцца на організацыю мешанага тыпу с.-г. гурткоў, прапануецца Акружкомам ЛКСМБ, АКРАНК і Акруговым Земаддзелам пры організацыі гурткоў кіравацца наступным:

1. С.-г. гурткі ў раёнах, незалежна ад таго, дзе яны організуюцца (пры хатах-чытальнях, нардомах, ячэйках ЛКСМ, чырвоных кутках і г.д.), павінны падлягаць Райпалітасьветкому і ім зацьвярджацца.

2. Для кіраўніцтва працаю гурткоў у акругах пры акруговых Палітасьветах організуецца часовае бюро з прадстаўнікоў: Акружкому ЛКСМ, Акрпалітасьветы і Акруговага Земаддзелу.

3. Організаваныя бюро павінны зрабіць вучот гурткоў па апытальнаму лісту, які да гэтага далучаецца.

4. Акруговыя бюро разглядаюць пляны працы Райпалітасьветкомаў па організацыі гурткоў, кіруюць іх працай шляхам абсьледаваньняў, заданьняў, здавальняючым забясьпечаньнем гурткоў літаратурай, матар'яламі, апрацоўваюць пляны практычнае працы гурткоў і г. д. Свае заданьні бюро праводзяць праз Райпалітасьветкомы; бюро нясуць адказнасьць за працу гурткоў.

5. Райпалітасьветкомы накіроўваюць усе матар'ялы аб працы гурткоў у Акруговыя Палітасьветы, якія ўзгодніваюць гэтыя матар'ялы з бюро. Сябры бюро на падставе матар'ялаў Райпалітасьветкомаў даюць справаздачы ЦК ЛКСМБ, Галоўпалітасьветы і Наркамземляробства. Нам. Наркамасьветы *Баліцкі.* За Наркамземляробства Нач. Кіраўніцтва С. Г. І. Рэмізаў. Адказны сакратар ЦК ЛКСМБ *Зімін.* Старшыня Галоўпалітасьветы *Бялуга.* Сакратар *Бабкоў.*

**Выданьне Наркамзема.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*